 


# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 8 (939) ГОД XIX БЕЛАСТОК 24 ЛЮТАГА 1974 г. ЦАНА 60 гр.


ШТО ЧУВАЦЬ?

## У БЕЛЬСКІМ ПАВЕЦЕ

— Што чуваць? — пытаем у знаёмых. — **Як** справы?

Хацелася б нам, каб нашымі знаёмымі былі ўсе людзі Беластоцкага ваяводства, якія не цураюцца карпатлівай і стваральнай працы дзеля лепшага жыцця ў нашай краіне. Таму пытаем у іх: **што чуваць?**

Сёння дае нам адказ начальнік павятовага ўпраўлення ў Бельску Падляшскім таварыш Дзімітр Ігнацюк.

— Апошнія дні студзеня і першыя лютага запоўніла нам падрыхтоўка плана гаспадарча-грамадскага развіцця Бельскага павету ў 1974 годзе. Гэты план разам з бюджэтам быў абмеркаваны і зацверджаны на сесіі павятовай рады, якая адбылася 30 студзеня. Ён прадбачвае далейшы рост узроўню жыцця і дабрабыту насельніцтва павету. І так: дзякуючы павышэнню заработнай платы даход насельніцтва павялічыцца ў нас на 10 працэнтаў, а дзякуючы павышэнню прадукцыйнасці працы і прыросту колькасці працуючых даход насельніцтва дадаткова яшчэ павялічыцца на 16 працэнтаў. Разам тады дабрабыт жыхароў Бельшчыны „падскочыць уверх“ на 26 працэнтаў, г. зн. больш, чым на 1/4 цяперашняга ўзроўню. Такога прыбытку на працягу аднаго года наш павет не меў яшчэ ніколі.

Не, не сумнявайцеся. Мы ўсё дакладна прадумалі і добра падлічылі. **У чэрвені гэтага года ў Бельску пачне працаваць магутны завод па перапрацоўцы малака ў парашок.** Будзе гэта адна з буйнейшых парашкоўняў у нашай краіне. Там атрымаюць працу сотні жыхароў Бельска і навакольных вёсак.

Затым, як і ва ўсёй краіне, на тэрыторыі нашага павету мы стараемся выявіць усе магчымыя рэзервы, якія спрыялі б колькаснаму і якаснаму павелічэнню прадукцыі. У гэтым годзе прызначаем на ўласныя капіталаўкладанні аж 340 тысяч злотых. Такой сумы грошай

Працяг на стар. 4

## СІМПАТЫЧНАЯ ПРАДАЎШЧЫЦА

Ядвіга Тамашэўская працуе прадаўшчыцай у кіёску „Рух“ нумар 907 у Дуброве. Знаходзіцца ён на пасёлку жыллёвага кааператыва. Усе жыхары блокаў ахвотна купляюць тут свежую прэсу, кніжкі, школьныя дапаможнікі, папяросы і розныя дробныя прадметы. Працу пачынае яна ў 6 гадзін раніцы, а канчае позна вечарам, але гэта не перашкаджае ёй увесь час быць ветлівай да кліентаў і... сімпатычнай. Іменна таму, што Ядвіга Тамашэўская працуе добрасумленна, усе яе шануюць і паважаюць. За апошнія гады яна дабілася значных поспехаў у продажы партыйнай прэсы і нашага тыднёвіка „Нівы“.

Варта адзначыць, што аб працы Ядвігі Тамашэўскай у кіёску вельмі цёпла гаварыў журналісту кіраўнік дуброўскай дэлегатуры.

**Тэкст і фота Я. Ц.**



**Н**ядаўна мы пісалі аб адбыўшайся сесіі ВРН, якая прыняла пастанову аб грамадска-эканамічным плане і бюджэце Беластоцкага ваяводства на **1974 г.**

План падзяляецца як бы на дзве асноўныя часткі: адна з іх датычыцца паляпшэння ўзроўню жыцця насельніцтва, а другая — матэрыяльнай прадукцыі, ці, інакш кажучы, таго, што забяспечвае ўзровень жыцця.

Паколькі ў папярэднім матэрыяле была ўжо мова аб даходах насельніцтва і аб забеспячэнні яго таварамі, аб жыллёвым будаўніцтве, сёння хочам звярнуць увагу на справы асветы і выхавання, аховы здароўя і культуры, а з матэрыяльнай прадукцыі — на сельскую гаспадарку.

## ЗАДАННІ НА 1974 ГОД

Прадбачваецца, што пачатковую школу ў гэтым годзе закончыць 23,8 тыс. вучняў. У сярэдніх і прафесіянальных школах нашага ваяводства для іх рыхтуецца столькі месц, што змагло б тут вучыцца 90,8 прац. будучых выпускнікоў пачатковых школ. Агульнаадукацыйныя ліцэі прымуць 23 працэнты, а каля 77 прац. будзе вучыцца ў рознага тыпу прафесіянальных школах. Павялічыцца таксама на 5,5 працэнта ў параўнанні з мінулым годам колькасць дзяцей у прадшколлях.

У 1974 годзе наша ваяводства пабагацее на 6 будынкаў пачатковых школ з 90 класнымі памяшканнямі: у Беластоку, Шымках (Беластоцкі павет), Элку, Лапах, Сухаволі (Дамброўскі павет) і Замброве. Дзеці Беластока, Кольна і Ставіскаў (Кольненскага павету) атрымаюць 4 прадшколлі. Інтэрнат на 250 месц атрымае моладзь з Кольна. У Беластоку будзе перададзены ў карыстанне камбінат музычных школ з вялікім канцэртным залам.

Значныя змены будуць наглядацца ў службе аховы здароўя. Амаль на 10 прац. узрасце колькасць вясковых цэнтраў аховы здароўя, а колькасць лекараў і дэнтыстаў павялічыцца на 85 чалавек. Будзе перададзен у карыстанне павільён на 50 ложкаў пры шпіталі ў Гайнаўцы. У Бранску пачне працаваць лекарская „пшыходня“, а пры бальніцах у Лапах і Граеве будзе аддадзена 18 памяшканняў. У гэтым годзе распачнецца будова велізарнай бальніцы ў Сувалках і другога этапа бальніцы ў Граеве, а таксама лячэбніцы для псіхічна хворых у Новай Всі Элцкай. У ваяводстве пачнуць будаваць 12 цэнтраў аховы здароўя ў вёсках.

Культурныя пляцоўкі надалей будуць развівацца і ўдасканальваць формы сваёй дзейнасці. Прадбачваецца, што колькасць дамоў культуры застанецца на такім жа колькасным узроўні, як і ў 1973 г., але ўзрасце на 5,1 прац. колькасць цэнтраў культуры, святліц і т. п.

Асноўнае заданне сельскай гаспадаркі ў гэтым годзе — гэта максімальнае павелічэнне жывёлагадоўлі пры адначасовым развіцці раслiннай прадукцыі ў такіх размерах, якія запэўнілі б лепшае забеспячэнне кормам. У гэтай галіне будзе пашырана кааперацыя паміж грамадскай і індывідуальнымі гаспадаркамі, а таксама паміж паасобнымі гаспадарчымі адзінкамі. Вялікае значэнне будзе мець не толькі тэрміновая праграма інвентарскага будаўніцтва, але таксама павелічэнне колькасці новых інвентарскіх месц для кароў і свіней, што створыць умовы для далейшага павелічэння жывёлагадоўлі.

Павінны быць поўнасцю выкарыстаны ўгоддзі. Загадана перадаць ПГР-ам, сельгасгурткам і сельскагаспадарчым кааператывам 10,1 тысячы га ПФЗ. Ужо ў гэтым годзе будуць павялічвацца пасевы такіх культур, як ячмень і пшаніца, а таксама высокабялковых раслін.

Валавая прадукцыя сельскай гаспадаркі дасягне вартасці 27,1 мільярда зл., што абазначае ўзрост на 4,1 прац.

**Ігар К.**

## БГКТ ХРОНІКА

■ Нядаўна ў вёсцы Чаромха (Гайнаўшчына) гурток БГКТ падрыхтаваў вечарыну з багатай мастацкай часткай, прысвечанай 30-ай гадавіне Народнай Польшчы. І пастаноўка п'есы, і песні, і вершы, і скетчы былі выкананы на высокім мастацкім узроўні. Вяла праграму Яўгенія Раманюк. Затым адбылася танцавальная забава.

■ Пры дапамозе дырэктара школы ў Ляневе Юркі Койлы з нагоды 30-ай гадавіны Народнай Польшчы гурток БГКТ таксама арганізаваў урачысты вечар з багатай мастацкай часткай, у якой была паказана п'еса Уладзіслава Галубка „Суд“, былі таксама вершы, песні і скетчы.

■ На апошнім пасяджэнні прэзідыума праўлення гайнаўскага аддзела прынята была справаздача аб дзейнасці аддзела ў 1973 годзе, зацверджаны план працы да канца гэтага года і праграма святкавання 30-ай гадавіны ПНР.

■ 3 лютага беластоцкі павятовы аддзел БГКТ правёў песенны конкурс БГКТ, у якім выступіла 30 чалавек. Сярод удзельнікаў сучаснай песні ў катэгорыі салістаў І месца заняла Галіна Госцік з Міхалова, ІІ месца не было прызнана, затое былі прызнаны два ІІІ месцы для Баляслава Окштэля і Івана Астапчука, абодва з Міхалова. У катэгорыі дуэтаў два І месцы падзялілі: Ірэна Паўлючук і Ніна Мушынская з Гарадка і Вольга і Галіна Госцік з Міхалова (маці з дачкою). Другое месца не было прызнана. А ІІІ месца занялі Зофія і Міхась Цацэркі (жонка з мужам) з Баброўнікаў. У катэгорыі вакальных калектываў І месца заваявалі члены харавога калектыву з Гарадка: Ніна Мушынская, Ніна Цыванюк, Раіса Дылько, Вольга Нядзведзева, Ірэна Паўлючук і акампаніятар Сцяпан Копа. Другое месца не было прызнана. ІІІ месца занялі спевакі з Міхалова: Вольга Бырдзяк, Анна і Галіна Госцік і музыканты Эдвард Гойлік, Іван Астапчук і Юрка Дзенішэўскі.

Сярод выканаўцаў фальклорнай песні два І месцы ў катэгорыі салістаў прызнаны Зофіі Цацэрка з Баброўнікаў і Зофіі Трахімчук з Дзернякова. ІІ месца заняла Люба Лукашэвіч з Пянькоў. Сярод дуэтаў І месца прызналі Марыі Сак і Клаўдзіі Домань з Новай Волі. ІІ месца не было прызнана. А ІІІ месца занялі Люба Лукашэвіч і Яўгенія Матрэньчык з Пянькоў.

У катэгорыі фальклорных вакальных калектываў І месца не было прызнана. ІІ месца занялі спевакі з Пянькоў — Люба Лукашэвіч, Яўгенія Парэмбская, Яўгенія Матрэньчык і Надзея Ярмоліч. ІІІ месца занялі спявачкі з Новай Волі: Раіса Буйко, Анна Кузьміцкая, Ніна Манах, Надзея Сак і Клаўдзія Домань. Усе спамянутыя ўдзельнікі гэтага конкурсу атрымалі каштоўныя ўзнагароды, якія ўручыў старшыня праўлення беластоцкага павятовага аддзела Я. Цялушэцкі.

■ 5 лютага Галоўная рэвізійная камісія Беларускага таварыства правяла кантроль статутовай і фінансавай дзейнасці Галоўнага праўлення БГКТ за 1973 год.

■ 8 лютага адбылося пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ, на якім былі разгледжаны: а) фінансавая справаздача ГП за 1973 год, б) пратакол Галоўнай рэвізійнай камісіі БГКТ аб праведзеным кантролі статутовай і фінансавай дзейнасці ГП у 1973 годзе, в) інфармацыя аб абмене членскіх білетаў БГКТ, г) справаздача аб дзейнасці ГП БГКТ у 1973 годзе. Прыводзім некаторыя дадзеныя з гэтай справаздачы: на дзень 31.XII.1973 г. у арганізацыі БГКТ знаходзілася 5.803 члены. З вышэйшай адукацыяй былі 674 члены БГКТ, а з сярэдняй прафесіянальнай — 1464. У апошніх выбарах выбрана радным 461 члена БГКТ. Культурна-асветную працу БГКТ вяло ў 198 цэнтрах культуры (святліцы ГРН і ОСП, клубы селяніна і „Руху“, а таксама школы). Дзейнічала 116 мастацкіх калектываў (у асноўным гэта быў беларускі рэпертуар), у тым ліку 42 тэатральныя калектывы, 28 харавых, 21 вакальна-музычны і іншыя. Адбылося 90 акадэмій, 95 вечарын, 54 сустрэчы, было праведзена 90 гутарак, 91 даклад, зроблены 233 выстаўкі, 312 фотавыставак, паказана 198 савецкіх фільмаў і т.д. (мх)

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ“



 

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі



## СВЕТ

### ПЕРАДВЫБАРНЫ МАНІФЕСТ

Кансерватыўная партыя апублікавала свой перадвыбарны маніфест, прэтэнцыёзна названы „Цвёрдыя дзеянні ў імя справядлівай Брытаніі“. З яго вынікае, што кіруючая партыя Англіі асноўны ўпор у сваёй выбарчай кампаніі зробіць на барацьбе супраць прафсаюзнага руху і левых сіл.

Кансерватары вымушаны прызнаць, што краіна перажывае цяпер вельмі цяжкі крызіс, але не прапануюць канкрэтных мер, накіраваных на яго пераадоленне. Аднак у маніфесце змяшчаюцца яўныя намёкі на тое, што ў выпадку перамогі на выбарах кансерватары будуць па-ранейшаму імкнуцца знайсці выхад з крызісу за кошт працоўных.

### КРЫЗІС

Старшыня еўрапейскага парламента К. Беркхоубер (Галандыя), адкрываючы тут чарговую сесію парламента, адзначыў, што „Агульны рынак“ перажывае „сур'ёзны крызіс, пры чым адзін з самых вострых у сваёй гісторыі“. На яго думку „дзевятка“ разваліцца, калі краіны — удзельніцы групоўкі будуць, як цяпер, шукаць вырашэння праблем, якія стаяць перад ёю, зыходзячы з нацыянальных інтарэсаў, а не з інтарэсаў усяго супольніцтва.

Ён указаў на няздольнасць „Агульнага рынку“ вырашыць цэлы рад сур'ёзных праблем, якія становяцца перад ім: дасягненне эканамічнага і валютнага саюза, выпрацоўка сумеснай палітыкі ў галіне энергетыкі.

### АСУДЖЭННЕ

Судоваму асуджэнню падвергнуўся фашысцкі рэжым у Чылі на пасяджэннях Камісіі ААН па правах чалавека. Злачынствы ваеннай хунты, якая ўстанавіла ў краіне жорсткі тэрор, рашуча заклеймілі дэлегаты Савецкага Саюза, Балгарыі, БССР, Егіпета, Індыі.

Незаконныя арышты, катаванні, расстрэлы ў Чылі не павінны ігнаравацца міжнародным супольніцтвам. Камісія ААН па правах чалавека абавязана зрабіць усё для таго, каб пакласці ім канец — такая сутнасць прагучаўшых у ходзе пасяджэння выступленняў.

### ЗА ВЫЗВАЛЕННЕ

Сусветны Савет Міру выступіў з заклікам правесці з 25 лютага па 4 сакавіка тыдзень барацьбы за вызваленне Генеральнага сакратара Кампартыі Чылі Луіса Карвалана і іншых чылійскіх патрыётаў, якія пакутуюць у турмах ваеннай хунты.

### КАНТРАКТ

У Трыпалі падпісан кантракт паміж амерыканскай нафтавай кампаніяй „Оксідэнтл петралеум кампарэшы“ і лівійскім урадам на разведку і здабычу нафты ў Лівіі тэрмінам на 35 гадоў. Згодна з кантрактам, Лівіі будзе належаць кантроль над 81 працэнтам нафты, разведанай за гэты час, 19 працэнтаў будуць належаць амерыканскай кампаніі.

### АБМЕЖАВАННЕ

Міністэрства гандлю ЗША аб'явіла аб увядзенні новых абмежаванняў на вываз за граніцу шэрагу нафтапрадуктаў з вадкаванага прыроднага газу, а таксама бутану і прапану. (ак)



## БССР

### КАСМАНАЎТ З БЕЛАРУСІ

Напярэдадні Новага года быў запушчаны ў космас карабль „Саюз-13“. На яго барце 8 сутак працавалі касманаўты Пётр Клімук і Валянцін Лебедзеў. Палёт „Саюза-13“ асабліва зацікаўленне выклікаў у Беларусі, бо ўпершыню ў касмічную прастору падняўся сын беларускіх сялян з-пад Брэста Пётр Клімук. Калі ён са сваім напарнікам прызямліўся, усе сталі з нецярпеннем чакаць сустрэчы са славутым земляком. 23 студзеня лётчык-касманаўт Герой Савецкага Саюза Пётр Клімук прыехаў у сталіцу Беларусі. Вітаць яго на вакзал прыйшлі сотні мінчан. Букетамі кветак, радаснымі ўсмешкамі яны горача віталі госця. На другі дзень, 24 студзеня Пятра Клімука сустрэлі жыхары Брэста. На Маскоўскай магістралі ля ўезду ў Брэст сабраліся прадстаўнікі партыйных, савецкіх і камсамольскіх арганізацый, моладзь. Была маці касманаўта Марфа Паўлаўна, айчым Н. Марозаў, сястра Антаніна. Гарадскі Савет дэпутатаў працоўных прысвоіў П. Клімуку званне ганаровага грамадзяніна Брэста. 26 студзеня Пётр Клімук наведаў родную вёску Камароўку. Фільмовае аб'яднанне „Летапіс“ зрабіла дакументальны фільм аб беларускім касманаўце.

### АЎТАМАТЫЗАВАНАЯ СІСТЭМА

Савет Міністраў БССР адобрыў прадстаўленае Дзяржпланам рэспублікі тэхнічнае заданне на распрацоўку аўтаматызаванай сістэмы кіравання народнай гаспадаркай Беларускай ССР. Агульнае арганізацыйнае кіраўніцтва работай па стварэнню гэтай сістэмы даручана ўстанове Дзяржплана БССР.

### ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ

Вядомаму беларускаму пісьменніку, народнаму паэту Беларусі, Аркадзю Аляксандравічу Куляшову споўнілася 60 гадоў. За заслугі ў развіцці савецкай літаратуры і ў сувязі з юбілеем Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР узнагародзіў Аркадзя Куляшова ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

### НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

Выдавецтва „Беларусь“ выпусціла на беларускай мове трэці том прамоў і артыкулаў Генеральнага сакратара ЦК КПСС Л. І. Брэжнева „Ленінскім курсам“. Том змяшчае прамовы, даклады, выступленні Л. І. Брэжнева, якія адносяцца да 1960—1972 гадоў.

### ВУЧНЁЎСКІЯ КАЗКІ

У сярэдняй школе № 33 горада Гомеля праведзен быў конкурс на лепшую казку. Вучні прадставілі на абмеркаванне журы каля ста казак. 17 лепшых з іх уключаны ў рукапісную кнігу „Казкі, прыдуманыя намі“. Кніга праілюстравана юнымі мастакамі.

### НОВЫ ТЭАТР

У мінскім мікрараёне Чыжоўка нядаўна адкрыўся новы кінатэатр „Дружба“. Гэта ўжо 22 кінатэатр у сталіцы БССР. У вялікім, сучаснай архітэктуры будынку, акрамя глядзельнай залы на 733 месцы, ёсць вялікая танцавальная зала і кафэ на 250 месц. (вр)



## ПОЛЬШЧА

### XIII ПЛЕНУМ ЦК

Адбылося XIII пленарнае пасяджэнне ЦК ПАРП. Яго тэма: ідэйна-выхаваўчыя заданні партыі ў святкаванні 30-годдзя ПНР. Палітбюро ЦК прадставіла праект тэзісаў ЦК, над якімі разгарнулася шырокая дыскусія. Былі ўнесены некаторыя прапановы і дапаўненні. Адкрываючы пленум, Э. Герэк сказаў, што праект тэзісаў ЦК дае ацэнку пройдзенага шляху, паказвае велізарную працу народа, які пад кіраўніцтвам партыі збудаваў сённяшнюю Польшчу. І сакратар ЦК Э. Герэк выступіў таксама з заключным словам. „Працай, а не вялікай колькасцю ўрачыстых сходаў найлепш адзначым 30-годдзе нашай айчыны,“ — сказаў ён.

Пленум зацвердзіў тэзісы ЦК ПАРП і выбраў таксама новых сакратароў ЦК ПАРП — В. Краську, Ю. Пінькоўскага, А. Вэрбляна.

### НОВЫЯ МІНІСТРЫ

Рада Дзяржавы па прапанове прэм'ера адклікала С. Вронскага з пасады міністра культуры і мастацтва і Ю. Акунеўскага з пасады міністра сельскай гаспадаркі. Назначыла — Ю. Тэйхму на пасаду міністра культуры і мастацтва з захаваннем дагэтуляшняй пасады віцэ-прэм'ера, К. Барцікоўскага на пасаду міністра сельскай гаспадаркі, С. Вронскага на пасаду міністра без партфеля.

### НА ВАРМІІ І МАЗУРАХ

Як лепш выкарыстаць магчымасці ольштынскай сельскай гаспадаркі, дзе ёсць добрыя ўмовы для жывёлагадоўлі — аб гэтым гаварылася ў Ольштыне на сустрэчы сельскагаспадарчага актыву ваяводства. У нарадзе ўдзельнічаў І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк.

### „ДОЛЬНА ОДРА“

У Чарнкове ля Шчэціна пачала працу новая электрастанцыя „Дольна Одра“. Першы этап будовы закончыўся на паўгода раней, чым прадбачваў план.

### ВІЗІТ ДРУЖБЫ

Польшчу наведаў член Мангольскай народна-рэвалюцыйнай партыі, міністр замежных спраў Мангольскай Народнай Рэспублікі Л. Рынчын. Ён прыехаў па запрашэнню міністра замежных спраў ПНР С. Альшоўскага. Міністры правялі палітычныя размовы, а потым госць пазнаёміўся з Варшавай.

### У ГОНАР 30-ГОДДЗЯ

Усё шырэй людзі працы на ўсіх прадпрыемствах бяруць на сябе прадукцыйныя абавязацельствы ў гонар вялікага юбілею нашай краіны. Праца і працоўныя дасягненні — гэта найлепшая форма падтрымкі палітыкі партыі і ўраду з боку грамадства. Прэсавы орган ЦК партыі „Трыбуна Люду“ ўсё часцей змяшчае весткі аб новых працоўных абавязацельствах, аб дадатковых тонах вугалю, сталі і іншых прадуктаў для краіны і на экспарт.

### НА ЦЭНТР ЗДАРОЎЯ ДЗІЦЯЦІ

Пачалася вялікая грашовая латарэя, даход з якой будзе прызначаны на цэнтр здароўя дзіцяці. Лёс каштуе 10 зл. Кожны пяты лёс выігрывае. Можна выйграць „Фіята 125п“, „Фіята 126п“, трактары „Урсус С-330“ і „Дзік-2“, матацыклы, тэлевізары, халадзільнікі, радыё, розныя хатнія прылады. (вл)



## ВАЯВОДСТВА

### БЕЛАСТОК — СТАЛІЦЫ

16 лютага ў варшаўскім Палацы культуры і навукі, у прысутнасці прадстаўнікоў цэнтральных і ваяводскіх улад, адбылося ўрачыстае адкрыццё Дзён Беласточчыны, якія праходзяць пад лозунгам „Панарама 30-годдзя“. У праграме Дзён — гаспадарчая выстаўка „Беласточчына сёння і заўтра“, выступленні на сталічных сцэнах беластоцкіх тэатраў — драматычнага імя А. Вянгеркі і тэатра лялек, канцэрты беластоцкага сімфанічнага аркестра, калектыву „Курпе зялёныя“ і іншых самадзейных калектываў, дэманстрацыя дакументальных фільмаў аб Беласточчыне, выстаўкі работ нашых мастакоў і народных умельцаў, а ў варшаўскіх рэстаранах беластоцкія кухары частуюць гасцей нашымі рэгіянальнымі стравамі. Беластаччане стараюцца паказаць сталіцы як найбольш з таго, чаго дабіліся за трыццаць год народнай улады. Дні Беласточчыны ў Варшаве працягнуцца да канца лютага.

### ЗЛЁТ БУДАЎНІКОЎ

17 лютага ў Беластоку адбыўся злёт будаўнікоў. Сустрэліся на злёце лепшыя майстры будаўніцтва з усяго ваяводства. Госцьмі будаўнікоў былі І сакратар ВК ПАРП З. Куроўскі і беластоцкі ваявода З. Спрыха, а таксама шэраг прадстаўнікоў цэнтральных і беластоцкіх устаноў. У мінулым годзе будаўнікі Беласточчыны паспяхова выканалі і нават перавыканалі план. Заданні гэтага года на 15% вышэйшыя, а першы месяц гэтага года паказаў, што будаўнікі могуць працаваць яшчэ лепш, чым у мінулым годзе. У час злёту будаўнікі выступілі з заклікам, каб яшчэ лепшымі тэмпамі працы адзначыць 30-годдзе Народнай Польшчы. Шэраг майстроў будаўніцтва атрымала дзяржаўныя ўзнагароды.

16 лютага па ініцыятыве беластоцкіх будаўнікоў, Куратарыі школьнай акругі і Ваяводскага праўлення ЗМС аб'яўлены быў Дзень адкрытых дзвярэй на будаўнічых прадпрыемствах і найбольшых пляцах будовы ў Беластоку, Аўгустове, Элку, Ломжы і Бельску. Частымі госцьмі будаўнікоў былі вучні.

### ПОМНІК

Як мы ўжо пісалі, у снежні мінулага года Прэзідыум ВК ФАН па прапанове І сакратара ВК ПАРП З. Куроўскага прыняў пастанову аб будове помніка героям Беластоцкай зямлі. Помнік будзе прысвечаны людзям, якія загінулі ў барацьбе з гітлераўскім фашызмам і за ўмацаванне народнай улады. Ужо вядома, дзе стане помнік. Найлепшым месцам для яго, як вырашана, будзе Цэнтральны парк у Беластоку. Аб'яўлены ўжо таксама конкурс на праект помніка. Да 1 чэрвеня павінны быць прадстаўлены праекты помніка.

### СУПРАЦОЎНІЦТВА

Беластоцкае прадпрыемства па вырабу будаўнічых элементаў навязала супрацоўніцтва з аддзелам зваркі Інстытута тэхналогіі будаўніцтва машын Познанскай палітэхнікі. Нядаўна беластачане атрымалі ад вучоных новую, вельмі добрую машыну, якая можа замяніць 20 зваршчыкаў. Гэта першая такая машына ў краіне. Супрацоўніцтва працягваецца. (яч)




**Niedziela 24.II.**

6.30 TV Technikum Rolnicze: Mechanizacja Rolnictwa. 7.00 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 7.30 TV Kurs Rolniczy. 8.15 „Alarm przeciwpożarowy trwa”. 8.25 „Nowoczesność w domu i zagrodzie”. 8.45 „Bieg po zdrowie”. 8.55 Program dnia. 9.00 TELERANEK. 10.20 PKF. 10.30 Antena. 10.45 Transmisja z międzypaństwowego meczu bokserskiego Polska — Jugosławia. 13.25 „Pociąg przyjaźni pod Lenino” („Spotkanie z pamięcią”). 13.45 Publicystyka wiejska. 14.15 Finał XII Olimpiady Wiedzy Rolniczej. 15.15 Dla dzieci: S. Obrazcow i S. Preobrażeński — „Baśń o pięciu braciach”. 16.15 Losowanie Toto-Lotka. 16.30 Studio Muzyki Rozrywkowej. 17.00 „Bank miast”. 18.00 Sportowy magazyn sprawozdawczy. 19.05 „Bank miast”. 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Bank miast”. 20.35 „Czarne chmury” — film TVP odc. X — ostatni. 21.15 „Canzonissima” — program rozr. wł. 21.55 „Bank miast”. 22.10 Informacyjny magazyn sportowy. 22.55 Dobranoc dla dorosłych.

**Poniedziałek 25.II.**

12.45 TV Technikum Rolnicze: Hodowla zwierząt. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 15.40 NURT. 16.10 Program dnia. 16.15 „Oferty”. 16.30 Dziennik. 16.40 „Zwierzyniec”. 17.25 „Echo stadionu”. 17.50 TV Kurier Lubelski. 18.05 „Spacerkiem po kinach”. 18.30 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 „Eureka”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV: Molier — „Don Juan”. 21.45 MIDEM—74 — program z Międzynarodowych Targów Płyt i Wydawnictw Muzycznych w Cannes. 23.15 Dziennik.

**Wtorek 26.II.**

6.30 TV Technikum Rolnicze: Hodowla zwierząt. 7.00 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 9.00 Dla szkół: (kl. I lic.) Język polski — Molier „Świętoszek”. 9.30 „Siedemnaście mgnień wiosny” — film radz. (odc. II). 13.45 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 14.30 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: J. Porazińska — „Baśń o Raduni”. 17.10 Sprawozdanie z międzypaństwowego meczu piłki nożnej Włochy — NRF. 19.10 „Przypominamy, radzimy”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Siedemnaście mgnień wiosny” — film radz. (odc. II). 21.30 „Interstudio”. 22.00 Wiadomości sportowe. Kronika Mistrzostw Świata w biathlonie. 22.15 „Karnawałowa noc” — rewia zespołów polskich. 23.05 Dziennik.

**Środa 27.II.**

6.30 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 7.00 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin. 9.00 Dla szkół: (kl. VIII) Chemia — „O niektórych tlenkach”. 9.30 „Przystań na tamtym brzegu” — film fab. radz. 11.05 Dla szkół: (kl. VII) Historia — „Warszawska Cytadela”. 12.45 TV Technikum Rolnicze: Fizyka. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Ochrona roślin. 14.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 15.15 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 15.55 NURT. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Muzykalny pajączek” — film radz. 16.55 Magazyn ITP. 17.10 Losowanie Małego Lotka. 17.20 „Konsylium” cz. I. 17.50 Koncert Chopinowski. 18.15 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.35 „Skarb w jeziorze” — film TV Czechosł. („Łuk tęczy”). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Mr Smith jedzie do Waszyngtonu” — film fab. ameryk. 22.25 Dziennik. 22.40 Wiadomości sportowe. 22.45 „Konsylium” cz. II.

**Czwartek 28.II.**

6.30 TV Technikum Rolnicze: Fizyka. 7.00 TV Technikum Rolnicze: Ochrona roślin. 8.55 „Mr Smith jedzie do Waszyngtonu” — film fab. ameryk. 11.05 Dla szkół: (kl. III lic.) Język polski — „Skamandryci i Awangarda”. 11.35 „Skarb w jeziorze” — film TV Czechosł. („Łuk tęczy”). 13.15 TV Kurs Informatyki. 13.45 TV Technikum Rolnicze: Botanika. 14.30 TV Technikum Rolnicze: Hodowla zwierząt. 15.05 Matematyka w szkole: Pojęcie ilorazu. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Ekran z bratkiem”. 17.45 PKF. 17.55 Program publicystyczny. 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 „Wiem wszystko” — teleturniej. 19.10 „Przypominamy, radzimy”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr Sensacji: P. Qentin — „Sprawa Wirginii Denham”. 21.30 Program publicystyczny. 22.00 Wiadomości sportowe. 22.05 Magazyn ITP. 22.20 Dziennik. 22.35 Sprawozdanie z Mistrzostw Świata w biathlonie oraz z Mistrzostw Świata w piłce ręcznej mężczyzn.

**Piątek 1.III.**

6.30 TV Technikum Rolnicze: Botanika. 7.00 TV Technikum Rolnicze: Hodowla zwierząt. 9.25 „Rancho” — film („Człowiek z Nevady”). 10.00 „Czarne chmury” — film TVP (odc. X — ostatni). 10.50 „Miasto błękitnych kopuł” — film dok. radz. 11.05 Dla szkół: (kl. VII) Wychowanie obywatelskie — „Na swojską nutę”. 12.00 Dla szkół: (kl. III) — „Jak to ze lnem było”. 12.45 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 14.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 15.55 NURT. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Pora na Telesfora”. 17.20 „Turystyka i wypoczynek”. 17.45 Tygodnik Informacyjny Młodych. 18.00 „Dwie szkoły” — telekonkurs. 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 „Klub Sześciu Kontynentów”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Rancho” — film („Człowiek z Nevady”). 20.45 Panorama”. 21.25 Wiadomości sportowe. 21.35 Teatr TV: B. Wasiliew — „Tak tu cicho o zmierzchu”. 23.05 Dziennik.

**Sobota 2.III.**

6.30 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 7.00 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 9.05 „Śmierć ojca — rok 1849” — film („Rodzina Straussów”). 10.00 Dla szkół: (kl. VII) Geografia — Włochy. 10.30 Filmy z Marleną Dietrich: „Blond Venus”. 12.00 Dla szkół: (kl. IV lic.) Biologia — „Główne prawidłowości ewolucji”. 13.55 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 14.35 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 15.10 Program dnia. 15.15 Program I proponuje. 15.30 Redakcja Szkolna zapowiada. 15.45 Telereklama. 16.00 Dziennik. 16.10 Dla dzieci „Sobótka”. 16.40 „Nie tylko dla pań”. 17.00 „Telektroskop”— widowisko oparte na motywach opowiadania M. Twaina. 17.50 „Śmierć ojca — rok 1849” — film („Rodzina Straussów”). 18.45 „Godzina Orfeusza” — mag. muz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 Teatr Rozrywki: P. Barillet, J. P. Gredy — „Adela i stressy”. 21.30 Dziennik. 21.50 Wiadomości sportowe. 22.15 Filmy z Marleną Dietrich: „Blond Venus”. 23.40 Spotowy magazyn sprawozdawczy.




**Piątek, 22 lutego**

7.50 Koncert. 8.10 Film fab. 15.15 Program dnia. 16.00 Panorama nowin. 16.30 Koncert. 17.40 Film fab. 19.00 Czas. 20.50 Program estradowy.

**Sobota, 23 lutego**

7.00 Program dnia. 8.15 Przegląd międzynarodowy. 10.00 Artyści — żołnierzom. 12.30 Film dokument. 13.00 Tańczcie z nami. 13.30 Koncert życzeń. 14.45 W świecie zwierząt. 16.00 Panorama nowin. 16.15 Filmy animowane. 16.45 Mistrzostwa świata w narciarstwie. 17.20 Pieśni wojenne. 17.55 TV teatr miniatur. 19.00 Czas. 19.30 Wieczór świąteczny w Ostankino. 21.15 Program sportowy.

**Niedziela, 24 lutego**

7.00 Program dnia. 9.00 Kiosk muzyczny. 11.30 Komedia filmowa. 13.40 Panorama międzynarodowa. 14.10 Filmy animowane. 14.40 Mistrzostwa świata w narciarstwie. 16.15 Film fab. 16.45 Klub filmowy. 17.45 Spektakl TV. 19.00 Czas. 19.30 Program muzyczny. 20.10 Program sportowy.




Нядаўна нашу рэдакцыю наведаў далёкі госць, журналіст і пісьменнік з Будзішына Кшэсцян Краўц. Мы ўжо раней пісалі аб тым, што „Ніва“ некалькі год назад наладзіла сувязь з серба-лужычанамі, якія жывуць у Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы ў ваколіцах Будзішына і Хоцебужа. Серба-лужычане — гэта народ са старой гісторыяй і высокай культурай, які толькі ў гады народнай улады атрымаў магчымасць развіваць свае нацыянальныя традыцыі, распаўсюджваць і праслаўляць сваю культуру.

Таму нашага госця цікавіў вельмі наш беларускі фальклор, звычаі, адносіны да роднай мовы і яе навучанне. Апрача таго, пісьменнік першы раз быў на Беласточчыне, і яго займала ўсё, што нам здаецца такім простым, звычайным і блізкім.

Мілае ўражанне зрабіла на нашага госця сустрэча з моладдзю ў Бельскім беларускім ліцэі. Вучні закідалі госця пытаннямі: як жыве моладзь у ГДР, ці лёгка паступіць у вышэйшыя і сярэднія школы, якія мелодыі найлепш любяць у ГДР, як выглядаюць серба-лужыцкія нацыянальныя касцюмы, ці ахвотна лужыцкія дзеці вывучаюць сваю мову, ці любяць спяваць і танцаваць, у якіх формах серба-лужыцкая газета „Пломіо“ ці іншыя трымаюць сувязь са сваімі чытачамі і шмат, шмат іншых. Госць расказваў дзве гадзіны, а пытанням не было канца. На развітанне члены літаратурнага гуртка, які існуе пры ліцэі, прачыталі госцю некалькі сваіх вершаў.

Зачаравала К. Краўца і наша цудоўная Белавежская пушча. Хоць да самай Гайнаўкі на палях было чорна, свяціла сонца, а студзень хутчэй прыпамінаў красавік, чым сярэдзіну зімы, пушча сустрэла нас снегам і суровым, нават трохі сумным спакоем. Затрымаліся ля зубрынага запаведніка. Гасцей у той будні дзень наогул не было і зубры былі выпушчаны на большую плошчу. Дзяжурны наглядчык за зубрамі аказаўся сімпатычным маладым хлопцам. Ён паказаў проста мастацкае ўменне ў абыходжанні з зубрамі. Выйшаўшы далёка ў лес, ён пачаў высокім голасам падаваць нейкія сігналы. І на наша дзіва, мінут праз дзесяць ля агароджы паявілася зубрыная сям'я: стары, вялізны зубрволат, зубрыха і, мабыць, з пяць зубранят-падлеткаў рознага ўзросту. Зубры пахадзілі па пляцоўцы, нібы дэманструючы сваю годнасць, і паволі накіраваліся пад паветку, дзе іх чакаў абед.

Падзякаваўшы наглядчыку і задаволеныя, што ўсё ж нам удалося ўбачыць зуброў бліжэй, едзем у Белавежу.

Спадабаўся нашаму госцю і белавежскі калектыў песні і танца. Мы былі запрошаны да іх на рэпетыцыю. Белавежцы танцавалі, спявалі свае любімыя песні, потым спяваў і наш госць Кшэсцян Краўц. Аказваецца, ён мае прыемны тэнар і ведае вялікую колькасць серба-лужыцкіх песень. На развітанне ўсе разам выказалі думку, што добра было б, каб можна было арганізаваць абмен мастацкімі калектывамі: каб наш калектыў выступіў з канцэртам у Будзішыне, а ў Беласток прыехаў адзін з серба-лужыцкіх калектываў. Прапанова ўсім вельмі спадабалася. Бо, як выяснілася, мы вельмі мала ведаем адны аб другіх. І варта было б лепш пазнаёміцца, а можа нават пасябраваць.

Найбольшае аднак уражанне зрабіў на госця вясковы жаночы калектыў з Меляшкоў. Жанчыны, сярод якіх нямала было ўжо ў старэйшых гадах, прыйшлі на сустрэчу з госцем у сваіх нацыянальных касцюмах, большасць блузак, фартушкоў і спадніцандаракаў была проста выцягнута з бабуліных куфэркаў. Сабраліся, як на вясковыя вячоркі, з кудзеляй, з вязаннем на прутках і шыдалкам. Пасядзелі, паспявалі. А песенны рэпертуар, трэба шчыра сказаць, у меляшкоўцаў надзвычай багаты. Пераважна спяваюць народныя беларускія і мясцовыя песні. Жанчыны прывіталі госця хлебам-соллю, прыпраўленым беларускімі прымаўкамі-пажаданнямі, частавалі вясковымі прысмакамі — хлебам уласнага выпеку, каўбасой уласнай работы ды квашанымі агуркамі. І ўсё гэта разам, дапраўленае песнямі, прыпеўкамі, заўзятай музыкай акардэона і нязмернай гасціннасцю і сардэчнасцю, не магло не адгукнуцца ў душы госця-славяніна. Ён весяліўся разам з гаспадарамі, спяваў і танцаваў.

А пакінуўшы нашу краіну, пераехаўшы польска-нямецкую граніцу, прыслаў тэлеграму:

„Ніва. Беласток. Усім працаўнікам і сябрам рэдакцыі „Ніва“ шлю сардэчныя прывітанні і шчырую падзяку за мілыя сустрэчы і ўмовы, створаныя мне для знаёмства з вашай краінай. Беласточчына аддалена ад нас на многія сотні кіламетраў, а ў думках і пачуццях нам, серба-лужычанам у ГДР, такая блізкая. Буду старацца далей паглыбляць нашу сувязь, якая так патрэбна для ўмацавання дружбы паміж людзьмі ў сацыялістычных краінах і дарагая сэрцу, як хлеб і соль, якімі віталі мяне ў Меляшках. Кшэсцян Краўц. ГДР“.

**Яніна Чэрнякевіч**



*Прэзідыум міцкевічаўскага вечара ў Мінску.*

## ПАМЯЦІ АДАМА МІЦКЕВІЧА

Нядаўна мы атрымалі з Мінска здымкі і паведамленне аб тым, як грамадскасць Беларусі адзначыла 175-годдзе з дня нараджэння Адама Міцкевіча.

На працягу снежня 1973 на старонках беларускіх газет і часопісаў друкаваліся артыкулы аб жыцці і творчасці паэта, а таксама вершы ў перакладзе на беларускую мову. Беларускія пісьменнікі шмат зрабілі дзеля таго, каб Міцкевіч загучаў па-беларуску. Над перакладамі твораў Адама Міцкевіча працавалі народныя паэты Беларусі — Янка Купала, Якуб Колас, Максім Танк.

25 снежня 1973 года ў Мінску, у доме работнікаў мастацтваў адбыўся вечар, прысвечаны 175-годдзю з дня нараджэння вялікага польскага паэта. Адкрываючы вечар, Максім Танк, старшыня Беларускага аддзялення Таварыства савецка-польскай дружбы, сказаў: „Міцкевіч марыў аб тым часе, калі народы, забыўшыся аб усіх разладах, аб'яднаюцца ў адну сям'ю. Цяпер такі час настаў. Нашы народы аб'ядналіся ў адзіную сацыялістычную сям'ю, і творчасць паэта садзейнічае іх далейшаму збліжэнню і ўзаемнаму ўзбагачэнню“.

З цікавымі паведамленнямі аб жыцці і творчасці А. Міцкевіча выступілі паэт, доктар філалагічных навук Алег Лойка і кандыдат філалагічных навук Адам Мальдзіс. Беларускія паэты Мікола Аўрамчык і Рыгор Барадулін прачыталі вершы А. Міцкевіча ў сваім перакладзе на беларускую мову. На вечары прысутнічаў генеральны консул ПНР у Мінску Алойзы Валяшак і іншыя працаўнікі консульства.

Літаратурныя вечары, прысвечаныя Адаму Міцкевічу, прайшлі на радзіме паэта ў Навагрудку, Маладзечне і іншых гарадах Беларусі. У бібліятэцы Акадэміі навук БССР, Дзяржаўнай бібліятэцы імя У. І. Леніна экспаніраваліся выстаўкі, расказваючыя аб жыццёвым і творчым шляху Адама Міцкевіча.



*Гэтымі сцежкамі хадзіў Адам Міцкевіч.*




### ПРА НАШЫХ ПАЭТАЎ

У студзеньскім нумары часопіса „Полымя“ змешчана рэцэнзія* на зборнік „Літаратурная Беласточчына“, выдадзены ў 1973 годзе ў Мінску выдавецтвам „Мастацкая літаратура“.

Як вядома, у зборніку былі змешчаны творы шаснаццаці аўтараў, членаў літаратурна-мастацкага аб'яднання „Белавежа“, якія, пражываючы ў Польскай Народнай Рэспубліцы, пішуць па-беларуску.

Коратка ахарактарызаваўшы беларускі літаратурны рух на Беласточчыне на працягу апошніх пятнаццаці гадоў, аўтар рэцэнзіі Уладзімір Содаль сцвярджае: „...першыя кволыя парасткі з часам разрасліся. Літаратурная рунь набрала глыбінных сокаў, ускаласіла і сёння ўжо мае пэўны набытак“. Гэта, між іншым, прычынілася да таго, што ўзнікла неабходнасць пазнаёміць з творчасцю беластоцкіх літаратараў і савецкага чытача.

Разглядаючы творы беластоцкіх пісьменнікаў, аўтар рэцэнзіі слушна канстатуе, што іх лейтматывам з'яўляецца родная Беласточчына, зямля, якая іх узгадавала, яе мінулае і сённяшняе. І нічога ў гэтым дзіўнага, сцвярджае Уладзімір Содаль: „Для мастакоў слова заўсёды было найпершым абавязкам уславіць і апаэтызаваць тую зямлю, якая завецца Бацькаўшчынай. І літаратары Беласточчыны па сіле сваіх творчых магчымасцей імкнуцца гэта рабіць... „Калі слязамі боль пакоціцца — калыханку матчыну, усмешку дзяцінства сын, прыгадай! Даражэйшага за родныя сялібы — нічога нікім з людзей не прыдумана!“ — гаворыць Сакрат Яновіч („Сыну“)“.

Аўтар аднак заўважае, што творчасць белавежцаў выходзіць па-за межы Беластоцкага рэгіёна, што з асаблівай цеплынёй беластоцкія пісьменнікі пішуць пра Беларусь і яе прыроду.

Адначасова Уладзімір Содаль гаворыць, што „ад паэтычнай падборкі Алеся Барскага патрабавалася значна большае“, ды і „нізкі вершаў іншых аўтараў таксама хацелася бачыць і колькасна большымі і тэматычна разнастайнымі“.

Заўважае аўтар і яшчэ адну дэталь, на нашу думку, вельмі важную. Вершы, змешчаныя ў зборніку, напісаны на пачатку творчага шляху беластоцкіх пісьменнікаў. Творы ж апошняга дзесяцігоддзя засталіся амаль па-за зборнікам.

**(А. Ч.)**

---

* Уладзімір Содаль „Песні Беластоцкага краю“ („Полымя“ № 1, 1974 г).




Некаторых сустрэтых намі ў жыцці людзей нельга забыць. Памяць наша ўчэпіста трымае сказаныя імі словы, іх жэсты, усмешку. Мне давялося працаваць у школе з адным настаўнікам, які мне асабіста запомніўся. Ён іграў на скрыпцы. Не толькі ў вольны час пасля заняткаў у школе, але нават на перапынках паміж урокамі. Цяпер ён на пенсіі і жыве ў вёсцы Ахрымы Гайнаўскага павету. Завецца Міхась Івацік. Калі іграў ён на сваёй неадлучнай скрыпцы, не адчуваў ні стомы, ні пражытых гадоў, якія цяжкай ношай узляглі на плечы. Быў гэта чалавек-душа, а калі хто слухаў яго ігру, самохаць сэрца пачынала біцца часцей.

Неадольная сіла пацягнула мяне ўбачыць віртуоза — незабыўнага скрыпача. Вёска, у якой ён жыве, ляжыць непадалёку ад Белавежскай пушчы. Прыехаў я сюды, у гэтую лясную ваколіцу, калі стаяла яшчэ споеная ранішнім спакоем цішыня. Прыціхлі нат галінкі, пяшчотна акутаныя снегам. Час тут нібы спыніўся. Іду, а ў думках музыка. Музыка, якую чуў калісьці ў старым бары ў навальніцу, якая застала нас, падлёткаў, на начлезе. Лес мне здаўся тады адным велізарным аркестрам. А над гэтым морам музыкі чуваць было, як спявае і плача скрыпка... Міхася Івацікa. У яго правай руцэ, быццам дырыжорская палачка, узлятае смычок.

Дакранаючыся да струн, ён даваў жыццё тысячам чароўных гукаў. Пальцы левай рукі перабягалі па струнках, нібы гладзілі іх, пераскоквалі то ўверх, то ўніз, надаючы гуку характэрнае дрыжэнне. Музыка змянялася, заціхала на момант, потым ізноў пераліваласяя ўсімі чароўнымі зыкамі. Скрыпка была то голасам птушкі на фоне бясконцага ляснога шуму, то шапаценнем сцяблінак збожжа перад жнівамі. Іграў Міхась Івацік мазуркі, абэркі, паланезы, вальсы, танга. Танцы ў розным тэмпе, з розным настроем. То бадзёрыя, імклівыя, то пяшчотныя і сумныя.

І вось я ля веснічак яго хаты. Зараз адбудзецца доўгачаканая сустрэча... Не, не было яе. Мой добры пажылы сябра якраз у беластоцкай бальніцы. Час узяў сваё. Усяўладная старасць замаркоціла душу чалавека. Адбірае сілы. Наколькі змогуць вярнуць здароўе лекары-спецыялісты? Дома засталася некалі неадлучная скрыпка Міхася Івацікa. Вісіць яна на ранейшым цвіку сярод кніг, якія гаспадар вельмі любіў. Вісіць яна, нямая. Адбіваюцца ў ёй промні сонца. Лаўлю музыку, што льецца з радыёпрыёмніка. Іграе многагалосны вялікі аркестр. Над усімі гукамі ўзнімаецца высокі тон скрыпкі. Прыгожы, чысты, усямоцны, далікатны, пяшчотны, мілы да болю. Сціхае аркестр.

Паглядаю ў бок скрыпкі на развітанне. „Да новай сустрэчы, — цісняцца словы на вусны. — Калі рукі настаўніка ізноў уваскрэсяць твае гукі“.

**Янка Цялушэцкі**

# І ДЛЯ ЧАЛАВЕКА, І ДЛЯ ГАСПАДАРКІ

Пачаткі сельскагаспадарчага кааператыва ў **Зубрах** Беластоцкага павету не былі лёгкія. Быў 1952 год. Заявы падало 18 чалавек, і пачалі яны гаспадарыць супольна амаль што з голымі рукамі: зямлю апрацоўвалі коньмі, на луг і ў поле хадзілі з касой. Зарэзвала церасралосіца — палеткі цягнуліся вузенькімі шнуркамі на некалькі вёрст ды ў дзесятках месц. З жывёлы — ні хваста. Толькі счакаўшы, прыдбалі неяк 10 каровак. Ні машын, ні будынкаў.

Але людзі папаліся зацятыя, настойлівыя, не з тых, што шукаюць лёгкага хлеба. Адступілі толькі трое. Спалохаліся. Іншыя выстаялі. Навакольныя сяляне дзіваваліся іх поспехам і паволі самі... прыносілі заявы. А ў 1972 і 1973 годзе хлынулі цэлай масай. За гэтыя апошнія два гады ўступіла ў кааператыў каля 50 новых членаў з Зуброў, Свіслачан, Зялёнай і нават з адлеглай Луплянкі. І бадай не без прычыны людзі так горнуцца ў зуброўскі кааператыў...

Сёння Зубры — заможны кааператыў; яго нерухомая маёмасць дасягае амаль 12 мільёнаў злотых, звыш 3 мільёны налічвае рухомая маёмасць і запасы. На кааператыўным двары — два кароўнікі на 200 штук быдла, птушкаферма, склады, клуня, іншыя будынкі, а яшчэ дзве птушкафермы ў Меляшках і Новай Волі. І ўсюды не пуста: у кароўніках 211 штук быдла, у тым ліку 112 дойных кароў і 99 ялаўніку, на трох птушкафермах у год адкормліваецца 150 тысяч курэй (бройлераў). На палях і лузе таксама не вецер гуляе. Хоць Зубры гаспадараць на глебе V—VI класа, бо IV класа маюць усяго няцэлы гектар, то ў мінулым годзе сабралі нядрэнны ўраджай: жыта дало па 28 цэнтнераў з гектара, праўда, авёс крыху слабей, аднак у сярэднім выйшла па 26 ц з га на ўсёй засеянай збожжам плошчы. Трактары, камбайн, поўныя камплекты ўсіх неабходных сельскагаспадарчых машын. Раней апрацоўвалі 288 га, але ў мінулым годзе прайшла камасацыя і ім багата падкінулі вольнай зямлі і лугоў. Цяпер Зубры гаспадараць на 493 га, у тым ліку ёсць 56 га лугоў і 84 га пашы. Як на 93 члены кааператыва, пры гэтым толькі 74 асобы поўназдольныя да працы, бо ёсць шмат пенсіянераў, такі маёнтак не малы. І даходы таксама неблагія. У 1972 годзе было 1 мільён 533 тысячы з лішнім чыстага даходу. Мінулы 1973 год, хоць яшчэ не закончаны падлікі, але таксама не будзе горшы ад папярэдняга.

— А як зарабілі людзі? — пытаюся ў рахункавода кааператыва **Зоф'і Талуць.**

— Днёўка ў нас выйшла па 90—100 злотых. Агульная сума заробкаў таксама добрая. Вось, напрыклад, Вера і Валянцін Кастусікі — ён трактарыст, а жонка працаўніца палявой брыгады — зарабілі разам 49.840 злотых; Анна і Янка Гегелі — ён палявы работнік, яна даярка — атрымалі 49.760 злотых. Такія прыблізна заробкі ўсіх.

— Чым пачала бягучы год жывёлагадоўля ў кааператыве? — з гэтым пытаннем звяртаюся да заатэхніка **Люцыны Маркоўскай.**

— Продажам дзяржаве 32 штук убойнага маладняку, а кожная ялоўка ці бычок вагой звыш 350 кілаграмаў. Нядаўна таксама даставілі 6.550 адкормленых бройлераў, агульнай вагой 10 тон 247 кг. А плануем прадаць яшчэ ў гэтым годзе 86 штук адкормленага быдла ды каля 145 тысяч бройлераў. Але мы не толькі прадаем! Мяняем паволі дагэтуляшні наш статак на нізінную чорна-белую расу. Маем ужо 44 чорна-



*Прадвесне.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

(Працяг са стар. 1)




у сваім распараджэнні дагэтуль мы яшчэ не мелі. Яна на 50 працэнтаў вышэйшая за мінулагоднюю. Выкарыстоўваючы гэтыя грошы, будзем старацца яшчэ шырэй разбудаваць сетку бытавога абслугоўвання грамадзян. У гэтай галіне наглядаліся ў нас усё ж вялікія недахопы. Не было каму рамантаваць радыёпрыёмнікі, тэлевізары, халадзільнікі, сціральныя ці нейкія іншыя сельскагаспадарчыя машыны. Таму рашылі мы павялічыць прадукцыйную працаздольнасць рамесніцкіх паслуговых пунктаў аж на 35 працэнтаў. Перш за ўсё забяспечваем нашай падтрымкай і дапамогай тых рамеснікаў, якія захочуць абсталяваць свае майстэрні ў вёсках.

Нашы намеры ў галіне сельскай гаспадаркі Бельскага павету накіроўваем перш за ўсё на далейшае павышэнне ўзроўню мінеральнага ўгнаення зямельных угоддзяў. У гэтым годзе рашылі мы нарэшце перавысіць сярэднія ўраджаі ўсяго Беластоцкага ваяводства. Дзеля гэтага трэба нам атрымаць не менш 25 цэнтнераў збожжа з кожнага гектара. Але такога менавіта ўраджаю мы спадзяемся. Гэта вельмі важная для нас справа. Мы хочам пераадолець псіхоз адсталасці, які яшчэ, як злая хвароба, мучыць многіх нашых сялян.

У галіне жывёлагадоўлі мы ўжо змаглі пераскочыць бар'ер „сярэдняй ваяводскай“. У мінулым годзе на 100 га зямельных угоддзяў прыпадала ў нас звыш 56 штук быдла. У гэтым годзе гэты паказчык маем намер павялічыць да 60 штук на 100 га, а гэта абазначае, што ў сялянскіх аборах будзе дадаткова некалькі дзесяткаў тысяч кароў і цялят. Будзе гэта наш канкрэтны ўклад у „мільён“ Беластоцкага ваяводства.

Не забываемся мы і пра свінагадоўлю. Тут таксама вызначылі мы высокія тэмпы развіцця.

Хвалююць нас не толькі колькасныя паказчыкі сельскай гаспадаркі. Дбаем мы і пра якасны яе ўзровень, а перш за ўсё стараемся паглыбляць практычныя веды сялян і шляхам механізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці намагаемся аблегчыць ім працу. Таму патрабавалі мы ад ваяводскіх улад, каб у гэтым годзе далі нам больш, чым раней, трактараў і іншых сельскагаспадарчых машын. У гэтай галіне Бельскі павет заўсёды быў крыху пакрыўджаны. Нельга ж гаварыць аб механізацыі, калі на адзін трактар прыпадае па 170—180 гектараў поля.

Сесія павятовай рады, як я ўжо гаварыў, зацвердзіла таксама наш павятовы бюджэт. Складае ён 236 мільёнаў злотых, а гэта значыць, на 16 працэнтаў вышэйшы за мінулагодні.

— Дык што ж, таварыш начальнік, здаецца, добра чуваць у вашым павеце?!

— Думаю, што цалкам нядрэнна.

— Тады да наступнай сустрэчы на старонках „Нівы“.

**Віктар Рудчык**

## ТАК БЫВАЕ...

### ПАМІНКІ

У Лішчаной на Сакольшчыне **жыў** дзядзька Шуткевіч. Пагадаваў дзяцей. Сыноў пажаніў, дочак павыдаваў **замуж**. Пасля жыў са сваёй жонкаю і радаваўся сваім унукам. Прыходзілі яны з-за сцяны ад роднага сына, з якім жылі яны пад адной страхой. Сказана ў паговорцы: „Прыйшла пара — і ўступай са двара“. Прыйшоў час, памёр стары Шуткевіч. Паплакалі дочкі па бацьку, паплакала яго жонка, пасмуткавалі сыны. Пахавалі яго на Грыбоўскіх могілках. Час ішоў. Усе сталі прывыкаць, што няма старога.

І так мінуў год. Традыцыйным звычаем на вёсцы ў гадавіну смерці чалавека наладжваюцца памінкі. І па старым Шуткевічу была закуплена абедня. Астроўскі, бацюшка, адслужыў у царкве, пасвяціў магілу. Сабраліся найбліжэйшыя, успомнілі аб бацьку, аб цесцю, аб дзядулі, аб мужу. Некаторыя заплакалі. Пасля ўсе разам адправіліся на супольны сямейны абед у хаце нябожчыка. Жонка яго і матка двух сыноў і дочак як магла, так падрыхтавала пачастунак. Зяць з Паўночнага Вострава Міхась Байгуз, спакойны і добры чалавек, прывёз гарэлкі і яшчэ закускі, хацеў ён, каб усё выйшла як найлепш. І бацюшку на гэты абед запрасілі.

Падчас абеда сын, які жыў за сцяной, пачаў грубіяніць. Меў ён прэтэнзіі да маткі за тое, што штосьці са сваёй маёмасці яна хоча іншым дзецям аддаць, а да брата і шваграў за тое, што яны не адмаўляюцца ад гэтых падарункаў.

„Калі яны будуць раззяўляць рот на матчын дабытак, палажу іх трупамі тут“, — заяўляў ён, казалі, перад памінкамі. Паводле яго, усё ў гэтай хаце і на гаспадарцы матка павінна была яму аддаць. І матка, напэўна, усё аддала б, калі б ведала, што здарыцца няшчасце...

Калі бацюшка ад'ехаў з памінальнага абеда, малады Шуткевіч пачаў бушаваць, пачаў чапляцца да брата з Гуран і да швагра з Кньшэвіч. Бачачы яго раз'юшанасць, брат уцёк у бульбу, а швагра схавалі ў хлевушку. Міхась Бойгуз вырашыў ехаць дамоў і пачаў запрагаць каня. Дачушка каля яго бегала. Тады швагер кінуўся на яго і ўдарыў палкай па галаве. Той адразу зваліўся з ног. Дачка стала лементаваць і выціраць кроў на галаве бацькі. Збегліся ўсе — жонка, маці, дзеці, а Міхась падняцца ўжо не мог. Крык, плач і страшэнная крыўда роднай сястры і роднай маці да сына і брата-бандыта. Выклі́каная хуткая дапамога з Саколкі забрала смяртэльна параненага Міхася Байгуза. Неўзабаве ён памёр у Саколцы. Хуткая дапамога прывезла яго цела ў родную хату, а міліцыя забрала забойцу ў турму.

Родны брат забіў роднай сястры мужа, асіраціў сваіх чацвёра і двое дзяцей сястры. Было гэта летам 1973 г.

**Міхась Сваяк**

## КАНСУЛЬТАЦЫЯ ЮРЫСТА

**Пытанне:** У 1966 годзе пераехаў я ў горад да дачкі, а гаспадарку аддаў у карыстанне суседу, які меў за гэта аплачваць падаткі. Сусед апрацоўваў зямлю два гады, падаткаў не плаціў, а пасля зямлю кінуў і яна ляжала адлогам. У 1970 годзе прэзідыум павятовай рады нарадовай пераняў зямлю ва ўласнасць дзяржавы. Ці можна патрабаваць звароту зямлі, а калі не, ці прыслугоўвае мне за зямлю пенсія?

**Адказ:** Згодна з законам з 13.VII.1957 г. і Распараджэннем Рады Міністраў з 5.VIII.1961 г., пакінутую сялянскую гаспадарку дзяржава пераймае без ніякай кампенсаты. Паколькі прэзідыум павятовай рады выдаў рашэнне аб пераняцці зямлі, з'яўляецца яна ўласнасцю дзяржавы, і няма ніякіх асноў да патрабавання яе звароту, а таксама няма падставы, каб патрабаваць пенсію за гэту зямлю. Пенсія прызначаецца тым сялянам, якія аддаюць дзяржаве зямлю за пенсію, а ў даным выпадку гэта ўмова не споўнена.

У нашай дзяржаве зямля не можа ляжаць адлогам. Апрацоўка зямлі — гэта не толькі права яе ўласніка, але і грамадзянскі абавязак.




# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЦЁТКА — ЧАСТКА IV

Творчасць Цёткі — з'ява багатая і складаная. Калі прыняць пад увагу, што пісала яна толькі на працягу чатырнаццаці гадоў, дык трэба сказаць, што была яна тварцом плённым. Тым больш, што жыла ў цяжкіх умовах, і паэзія не была ніколі ў яе жыцці справай, якой магла б аддаць усе свае сілы. Дынаміка, актыўнасць, вітальнасць і сіла паэзіі Цёткі з'яўляецца як бы супрацьстаўленнем яе фізічнай далікатнасці, кволасці. Цётка была дробнай будовы цела, яе фізічную слабасць паглыбляла цяжкая хвароба — туберкулёз. Аднак паэтэса была чалавекам, у якім сіла духа брала перавагу над слабасцю цела.

Цётка была перш за ўсё паэтэсай, аднак займалася таксама і мастацкай прозай, і публіцыстыкай. Не былі ёй чужымі таксама навуковыя імкненні, якія мелі выліцца ў даследаванні „Батлейкі на Беларусі і іх сувязь з польскай літаратурай драматычнай“. Цяжкія ўмовы жыцця, пераезды з месца на месца, хвароба, вайна і заўчасная смерць не дазволілі Цётцы рэалізаваць гэты намер.

Пераходзячы да канкрэтаў, трэба сказаць, што Цётка з'яўляецца аўтарам наступных зборнікаў і кніжак: „Хрэст на свабоду“, „Скрыпка беларуская“ — паэтычныя зборнікі; „Першае чытанне“, „Гасцінец“ — кніжкі для дзяцей. Усе гэтыя кніжкі апублікавала Цётка ў 1906 годзе. Дзве апошнія кніжкі Цёткі неаднолькавыя па свайму характару і вартасці. Поўны загаловак першай — „Беларускі лементар або першая навука пісання“. Кніжка гэта мела характар падручніка. Другая, пад загалоўкам „Гасцінец для малых дзяцей“ — была зборнікам апавяданняў для дзяцей, перакладзеных Цёткай з украінскай мовы.

Паэтэса даволі часта карысталася рознымі псеўданімамі, найчасцей падпісвала свае творы псеўданімам Цётка, аднак галоўныя свае зборнікі падпісала іншым псеўданімам. І так, зборнік „Хрэст на свабоду“ быў падпісаны псеўданімам Гаўрыла, зборнік „Скрыпка беларуская“ — псеўданімам Гаўрыла з Полацка, зборнік „Гасцінец для малых дзяцей“ — псеўданімам Тутэйшы. Дакладна невядома, дзе былі выдадзены паасобныя зборнікі Цёткі. Вядома, што „Беларускі лементар“ быў надрукаваны вядомай беларускай суполкай „Загляне сонцэ і ў нашэ аконцэ“ ў Пецярбурзе, зборнікі „Хрэст на свабоду“, „Скрыпка беларуская“ і „Гасцінец“, мяркуюць, былі апублікаваны на Украіне, у Львове або пад Львовам.

Значная колькасць твораў Цёткі была апублікавана на старонках „Нашай долі“ і „Нашай нівы“, „Лучынкі“, „Сахі“, „Маладой Беларусі“, Беларускіх каляндароў.

Калі шукаць ідэйна-паэтычных папярэднікаў Цёткі, дык трэба на першым месцы паставіць Багушэвіча. Залежнасць ад Багушэвіча праяўляецца і ў загалоўку аднаго са зборнікаў Цёткі, і ў спосабе падпісання гэтага зборніка. Як вядома Багушэвіч у загалоўках сваіх зборнікаў выкарыстаў музычныя інструменты. Пасведчанне гэтага бачым у назве „Дудка беларуская“ і „Смык беларускі“. Цётка выразна прадаўжае традыцыю Багушэвіча і называе свой зборнік „Скрыпка беларуская“. Багушэвіч падпісаў адзін з сваіх зборнікаў псеўданімам Шымон Рэўка з-пад Барысава. Цётка і тут ідзе за Багушэвічам, падпісаўшы сваю „Скрыпку“ псеўданімам Гаўрыла з Полацка. Падабенства паэтычных лёсаў зборнікаў Багушэвіча і Цёткі праяўляецца і ў тым, што выйшлі яны па-за межамі Расійскай Імперыі.

Усё гэта толькі знешнія, фармальныя сувязі і залежнасці паміж Багушэвічам і Цёткай. Каб канчаткова пераканацца ў глыбокіх карэннях залежнасці Цёткі ад Багушэвіча, варта за Карскім прывесці фрагмент прадмовы да „Скрыпкі беларускай“, у якім Цётка выразна гаворыць аб сувязі сваёй паэзіі з паэзіяй і ідэалогіяй Багушэвіча-Бурачка. Вось гэты фрагмент: „Доўга я гадаў і думаў, як сябе зваць, ці то палякам, ці то літоўцам, бо слова „тутэйшы“ мне некзць не смакавала. І так колькі гадоў я хістаўся то на ту, то на другую сторану, ажо покі не папала мне ў мае рукі „Дудка“ Мацея Бурачка; яна то мне сказала, што хто гаворыць па-тутэйшаму, па-мужыцку, значыцца, ён гаворыць па-беларуску, а хто гаворыць па-беларуску, той беларус. Прачытаўшы тую Дудку, я сказаў: Дзякуй табе, М. Бурачок, чэсць і слава твайму слову. А ты, Дудка, грай і мне голас дай. З таго дня пачаў і я майстраваць інструмент. Выйшла з-пад рук Скрыпка“ (Е. Карский, Белоруссы, Петроград 1922, с. 220).

белыя каровы, у гэтым годзе набудзем такіх жа 30 ялошак. Хочам, каб да канца 1975 года мець 120 штук найбольш прадукцыйнай у нас чорна-белай расы быдла. Затым будзем будаваць яшчэ адзін кароўнік на 100 штук для адкорму маладняку, бо нам, ды і дзяржаве, найвыгадней адкормліваць маладняк, на яго ўсюды вялікі спрос, а і даход добры.

— А што чуваць у полі?

— Снегу малавата, але бадай гэта не пашкодзіць нашым засевам, — усміхаецца малады кіраўнік па справах прадукцыі, аграном **Янка Грыцюк.** — Кантрактуем многа, і ўсё насеннае збожжа: жыта „данькоўскае селекцыйнае“, авёс „Ромулус“, бульбу „Леніна“, сырадэлю, лубін. Пастаўляем у насенную цэнтралю. У Лапах расце новы цукровы завод, дык і мы прабуем даць яму сыравіну. Пашыраем засевы цукровых буракоў. На глебе пятага класа!.. І каб вы ведалі — зусім нядрэнны ўраджай, у мінулым годзе сабралі па 190 цэнтнераў з гектара. І выгадна — завод прадаў нам 350 цэнтнераў высаладкаў. Гэта ж скарб для гадоўлі. Што ж, людзі ў нас салідныя, працавітыя. Хоць бы ўзяць брыгадзіра з птушкафермы ў Меляшках Анну Чэшаль; трактарыстаў Мікалая Талуця, Валянціна Кастусіка; механікаў Тадэуша Яскулоўскага, Аляксея Дзярманскага, Мікалая Ціунчыка. У іх праца ў руках гарыць. А такіх у нас многа, усіх не пералічыш, хоць і нядбайныя таксама здараюцца.

— А ўсё ж без клопатаў не абыходзіцца? — звяртаюся да старшыні кааператыва **Уладзіміра Шышко.**

— Пэўна! Вось падрыхтавалі мы дакументацыю на новы гараж для трактараў і машын, а таксама на два жыллёвыя дамы, па восем кватэраў кожны, з цэнтральным абаграваннем, водаправодамі і іншымі гарадскімі люксусамі, маем грошы, але інспектарат сельскагаспадарчага будаўніцтва ў Беластоку ніяк не можа даць нам выканаўцы. А гэта ж для людзей дамы, а значыць і для нашай гаспадаркі!..

Так. Не без прычын людзі горнуцца ў зуброўскі кааператыў. У ім думаюць і аб чалавеку, і аб гаспадарцы.

**Мікалай Гайдук**




# Чаго Ясь у пору навучыцца, тое Янка ўмець будзе


*Янка Клімовіч без працы не ўседзіць.*

Залатыя, кажуць людзі, рукі ў Клімовіча. Што хочаш, зробіць. І хату пабудуе, і печку паставіць, і сталярку ведае, і маляр пры тым адмысловы.

Ну што ж? Нямала яшчэ, скажаце, такіх майстроў на ўсе рукі па вёсках і асадах.

Сёння, вядома, па-даўнейшаму нікому ўжо жыць не хочацца. Пра лепшае людзі марацъ. Новых дарог шукаюць. З усіх сіл намагаюцца, каб ісці нага ў нагу з сённяшнім днём.

Таму, калі ў 1968 г. Янка Клімовіч, атрымаўшы ад грамадскай тады яшчэ рады, дзялянку, пачаў будавацца, я ў гэтым нічога надзвычайнага не бачыў.

Гаварылі, праўда, што ні сну, ні спачынку не ведае. Што ўсё сам, або сіламі сваёй сямейкі робіць.

Але дом ягоны рос, быццам бы на дрaжджах. Суседзі яшчэ ўзяцца за работу не паспелі, калі ў яго ўжо і фундамент заліты, і сцены цягнуцца ўгору. У 1970 годзе ўжо можна было перабірацца.

Я з ім так і не паспеў тады пазнаёміцца. Часта толькі, мінаючы склады гарадоцкага гэзсу, з прыемнасцю разглядаў аднапавярховы, прыгожа атынкаваны, колеру кавы з малаком, асабнячок.

Пазнацца бліжэй нам давялося толькі ў 1973 г. Няшчасце чалавека спаткала. Два пальцы правай рукі выпадкова пілой абрэзаў. Боль цярпеў мужна... Адна бяда — ці так, як калісьці, працаваць яшчэ зможа. Тым больш, што раней жа яшчэ, дом будуючы, з рыштавання зваліўся, пабіў пазваночнік.

Дык вось я яго першы раз і наведаў. Зайшоў — і вочы разбегліся: куды глядзець — невядома. На панадворку басейн з фантанам. Вадзяное зелле ў ім расце, рыбкі плаваюць. Важна пераступаючы з нагі на нагу, чысцяць пёрышкі тадаванцы Марыі Клімовіч, рознакаляровыя, рэдкіх парод гусі.

Адусюль так і сочыцца патрэба прыгажосці. Кожная драбніца навокал любоўна прыхарошана, прыаздоблена. Не звычайная ўжо праца, а паэзія рук чалавечых.

З галавой поўнай думак, увайшоў я ў гасцінную хату. Анулька, дзяўчынка шасцігадовая, насустрач мне выйшла. І вось, па-над яе бялявай галованькай у глыб кватэры глянуўшы, я аслупеў. А парог пераступіўшы, толькі рот раззявіў, прысеў на крэсле і моўчкі разглядаў усё, што навокал — рэчы, у якіх, як у вадзяной гладзі, адбіваліся характар і душа гэтае сямейкі.

З давён-даўна беларускія народныя мастакі карысталіся ў сваёй творчасці саломай. Матэрыял, вядома, агульнадаступны, танны. Ва ўмелых руках ён ператвараўся ў шматлікія вырабы, іскрыўся ўзорамі — інкрустацыяй на каробачках, скрыначках, куфэрках.

Тут ён быў ужыты ў неспатыканым дагэтуль маштабе. Не каробачка табе там якая, а цэлы буфет у залацістыя ўзоры. Не скрыначка, а стол саліднага размеру саламяным арнаментам вылажаны. Люстра-трэмо з шафкаю багата інкруставанае. Гэта — драбніцаў не лічачы. Ды і ў іншых пакоях таксама. Стол, крэслы — што хочаш. Колькі фантазіі! Колькі карпатлівай працы. Колькі тысяч саломінак нарэзаных, па-мастацку зложаных разам.

Клімовіч па-гаспадарску скупа расказвае пра пачатковыя спробы. Другі год яны ўжо саломкай займаюцца. Усе. Бацькі і дзеці. Анулька і тая, язычок прыкусіўшы, маленькімі пальчыкамі саломку рэжа.

Бо 12-гадовы Ясь і 10-гадовы Станіслаў ужо майстры што трэба, памочнікі ва ўсіх хатніх справах. Усе ў татку — паважныя, скромныя, працавітыя. Наколькі ведаю, то і вучацца нядрэнна.

Бацька паказвае іх самастойныя работы, і ў яго горда паблісківаюць вочы. Скупы на словы і пачуцці, строгі нават, ён рады, што мае каму перказаць свой працоўны вопыт. Відаць адразу, што не пра аднаго яшчэ Клімовіча людзі скажуць, што залатыя рукі мае.

Ад таго часу захапляліся ўжо вырабамі гарадоцкай сямейкі наведвальнікі павятовага агляду аматарскай творчасці. Зацікавілася імі Цэпэлія. І я нават разлажыў паперы на століку іхняй работы.

Добра на ім пішацца. Быццам бы ніва спелага жыта перад табою. Вочы бегаюць туды-сюды па сцяблах-саломінках. Думкі ў галаве налітым калоссем шумяць. Пяро па паперы рыпіць вострай касою. Запісаныя карткі, як снапы, адна на другую ложацца. Буду і я з ураджаем.

І за гэта дзякуй. Дзякуй чалавеку, умелых рук якога гэта заслуга.

**Ларс**
**Фота Я. Цялушэцкага**


*Дванаццацігадовы Ясь Клімовіч.*

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

ЖАРТОЎНАЯ

106







*Паехаў я ў сваты,*
*І казалі сесці.*
*Далі бульвы з лупінамі,*
*І казалі есці.*
*Я на тую бульву*
*Скрыва паглядаю —*
*Стаяць блінцы на пячыэ,*
*Я на іх міргаю.*
*Стаяць блінцы на пячыэ,*
*Я на іх міргаю.*
*Паслалі мне ложа,*
*І казалі спаці.*
*Я блінцыэ пад палу —*
*Давай уцякаці.*

*Я блінцыэ пад палу —*
*Давай уцякаці.*
*Як ляцеў, так ляцеў*
*Церэз тры гароды.*
*Зачапіўса за гарбуз —*
*Нарабіў я шкоды.*
*Зачапіўса за гарбуз —*
*Нарабіў я шкоды.*
*Як ляцеў, так ляцеў*
*Та й ні аглянуўся:*
*Як сцярэбіць мужык кіем —*
*Тры разы звярнуўся.*
*Як сцярэбіць мужык кіем —*
*Тры разы звярнуўся.*

Ад Варонка Анелі, 75 год, і Варонка Тэафіліі, 75 год, вёска Снічаны, гміна Сідра, Сакольскага павету, запісаў 27 снежня 1973 года Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Эдуард Гойлік.

**„Ніва“ пытае**




Пад канец месяца студзеня адбылася ў сядзібе Ваяводскай пракуратуры ў Беластоку чарговая сустрэча беластоцкіх журналістаў з кіраўніцтвам пракуратуры Беластоцкага ваяводства. Карыстаючыся нагодай, я папрасіў намесніка ваяводскага пракурора тав. **Марка Лахоўскага** даць інтэрв'ю для нашага тыднёвіка.

**„Ніва“:** Слова п р а к у р о р заўсёды выклікае ў чалавека нейкае хваляванне, якое мяжуе з пачуццём страху. Кожны з нас міжвольна шукае ў закутках сваёй душы чагосьці „грэшнага“, да чаго нават сорамна прызнацца

**Пракурор:** Гэта зусім беспадстаўнае пачуццё. Яно, калі ёсць, дык нарадзілася бадай у выніку таго, што людзі найчасцей бачаць пракурора ў судзе, калі ён выступае як публічны абвінаваўца, калі патрабуе высокага пакарання для злачынцаў, калі выглядае грозны і люты. Трэба аднак ведаць, што выступленне пракурора ў судзе, у час судовага разбору справы, гэта ўжо канец, а не пачатак яго карпатлівай і адказнай працы. Асноўнае, чым займаюцца пракуроры, для непасрэдна незацікаўленых асоб мала прыкметнае, бо ўсё гэта праходзіць за глухімі дзвярыма кабінетаў.

**„Ніва“**: Якія ж вынікі гэтай працы?

**Пракурор:** У 1973 годзе наглядалі мы відавочнае змяншэнне праступніцкай дзейнасці. Калі дазволіце мне падмацаваць сказанае лікамі, дык трэба сказаць, што ў параўнанні з папярэднім годам занатавалі мы ў Беластоцкім ваяводстве на 9 прац. менш рознага тыпу злачынстваў.

**„Ніва“:** Пракуратура належыць да тых нешматлікіх установ, у якіх **„чым менш — тым лепш“.**

**Пракурор:** Так, зусім наадварот, чым на прамысловых прадпрыемствах. Можам пахваліцца, што Беласточчына з'яўляецца найспакайнейшым раёнам нашай краіны. Маем найменш злачынстваў на 1000 жыхароў. І колькасць іх з году ў год усё памяншаецца. Напрыклад, выпадкаў знасільвання жанчын было ў мінулым годзе напалавіну менш, чымсьці ў папярэднім 1972 годзе. У гэтай катэгорыі злачынстваў асабліва каварнымі з'яўляюцца калектыўныя знасільванні маладых дзяўчат. На шчасце, было іх зусім мала, усяго два выпадкі, але тут трэба падкрэсліць, мы заўсёды патрабуем самых высокіх норм кары, прадбачанай правам.

**„Ніва“:** Калі мы ўжо ў галіне „злачыннай эротыкі“, дык што чуваць у свеце **„дарожных інжынераў“?**

**Пракурор:** Колькасць злачынстваў, якія мы называем **„набываннем матэрыяльнай карысці ад распусты“**, зменшылася ў мінулым годзе на 45 прац. Аднак гэтая грамадская хвароба ўсё ж не дае нам спакою, бо трэба ведаць, што дзе п р а с т ы т у ц ы я, там і а л к а г а л і з м. Гэта неразлучная пара крымінальнай цемры. З нашых назіранняў вынікае, што звыш 90 прац. злачынстваў пачынаецца пад уплывам алкаголю.

**„Ніва“:** Дык трэба спадзявацца, што апошнія рашэнні ўрада аб павышэнні цэн на спіртныя напіткі будуць мець становчы ўплыў на стан бяспекі ў краіне.

**Пракурор:** Несумненна так, бо найлепш выкараняць прычыну злачынства, а не яго вынікі. Адначасова аднак мы спадзяемся прыросту нелегальнага дамашняга вырабу спіртных напіткаў. Хай аднак самагоншчыкі памятаюць, што ані міліцыя, ані мы не маем намеру літавацца над імі.

**„Ніва“.** Што яшчэ парушала грамадскі парадак Беласточчыны?

**Пракурор:** Пажары, пакражы з узломам, пакражы прыватнай маёмасці, хуліганства. Асабліва ў горадзе Беластоку і Беластоцкім павеце, а таксама ў Элку.

**„Ніва“:** Нас перш за ўсё цікавіць паўднёва-ўсходняя частка ваяводства.

**Пракурор:** Значыць — Гайнаўка. Гэты горад заўсёды не даваў нам спакою. Ён жа малады, і яго грамадскасць усё яшчэ кшталтуецца, бо з'ехаліся сюды людзі з розных куткоў краіны, ваяводства і павету, з вёсак і гарадоў. Гэта спрыяе злачынству. Таму і хуліганства, пакражы... На шчасце, паступова ўсё гэта супакойваецца. У 1971 годзе было ў Гайнаўцы 829 злачынстваў, год пазней — 644, а ў мінулым годзе ўжо толькі — 477.

**„Ніва“.** Якія намеры ў работнікаў пракуратуры Беластоцкага ваяводства на гэты год?

**Пракурор:** Перш за ўсё пашыраем прафілактычную дзейнасць, бо лепш пазбягаць злачынстваў, чым караць злачынцаў. У адносінах да грамадзян, якія неяк выпадкова і ўпершыню ўвайшлі ў канфлікт з нормамі права, даволі шырока будзем прымяняць у м о ў н а е с п ы н е н н е с п р а в ы на 1—2 гады. Калі ў тым часе гэты выпадковы злачынца будзе весці сябе прыкладна, дык я г о с п р а в у м ы ц а л к а м п а г а с і м, я к б ы я е з у с і м н е б ы л о. У адносінах да свядомых злачынцаў мы аднак будзем патрабаваць самых суровых прыгавораў. Шырока будзем п р ы м я н я ц ь к а ш т о ў н ы я ў з н а г а р о д ы для грамадзян, якія захочуць супрацоўнічаць з намі і з міліцыяй у барацьбе са злачынцамі. Работнікі пракуратуры праводзяць сустрэчы з працоўнымі калектывамі на прадпрыемствах і ва ўстановах. Маем намер праводзіць публічныя дыскусіі ў тых асяроддзях, дзе здарыліся злачынствы. Прадугледжваем шмат іншых мерапрыемстваў, якія, на нашу думку, абмяжуюць колькасць злачынстваў.

**„Ніва“:** Шчыра дзякуем за цікавую гутарку.

**Віктар Рудчык**



*Так выглядае праект помніка-бальніцы.*

# Помнік дзецям і для дзяцей

Апошняя вайна прынесла нашаму народу нязмерныя, нязлічаныя страты, была трагедыяй і гераічным змаганнем за свой гонар і лёс. Безліч гора, бяды і страшэннай крыўды выпала і на долю дзяцей. Яшчэ сёння ёсць нямала людзей, якія памятаюць бледныя, худыя дзіцячыя тварыкі за калючым дротам фашызму, памятаюць плач дзяцей, адабраных бацькам, малых бяздомных сірот. А гара дзіцячых чаравікаў у былым асвенцімскім лагеры! Іх гаспадары загінулі, амаль не спазнаўшы жыцця, завялі, не паспеўшы расцвісці.

Нямала пастаўлена помнікаў гераічным змагарам — воінам, партызанам, народным мсціўцам. А які ж можа быць помнік дзіцяці, якому фашысты забралі дзяцінства? Бадай не мёртвы камень! Няхай гэта будзе светлы дом, які прынясе шчасце і здароўе сённяшнім дзецям.

Так узнікла думка пабудаваць помнік-бальніцу, якая будзе называцца Цэнтр здароўя дзіцяці. У 1968 годзе створаны быў грамадскі камітэт будовы помніка, на чале якога стаў міністр Януш Вячорэк. Зборам грошай занялiся грамадскія арганізацыі. „Узносім Цэнтр здароўя дзіцяці з грамадскіх сродкаў, — казаў на ўрачыстасці, прысвечанай пачатку пабудовы, Старшыня Рады Дзяржавы Г. Яблонскі. — Не таму, што дзяржава не мае за што пабудаваць. Не адну ўжо дзіцячую бальніцу мы пабудавалі і яшчэ пабудуем. Помнік-бальніцу будуем з грамадскіх сродкаў, бо такая патрэба сэрц усіх людзей, якім дарагая памяць дзіцячага гераізму і якія хочуць даць гэтай памяці канкрэтную постаць“.

Ад чэрвеня 1973 года патранат над будовай помніка ўзяў на сябе Саюз польскіх гарцэраў. Дзеці збіралі макулатуру, лясное руно, давалі канцэрты і вялі вулічны збор, а потым арганізавалі акцыю „Значок“, збіраючы грошы на будову ў сваім асяроддзі. На заклік грамадскага камітэта будовы помніка адгукнуліся ўстановы і асобныя людзі. Уключыліся ў збор грошай і палякі, якія пражываюць па-за межамі краіны. Такім чынам сабрана ўжо каля 300 мільёнаў злотых.

Сярод архітэктараў быў аб'яўлены конкурс на праект бальніцы. І выбраны быў такі, як бачыце на малюнку. Кошт будовы такой бальніцы — 500 мільёнаў злотых. Будзе гэта цэлы комплекс медычных установ: бальніца на 380 ложкаў, кабінеты дыягностыкі, лабараторыі, прыбальнічная амбулаторыя, гасцініца для прыезжых мам і інш.

Будова ўжо пачалася. Заканчэнне прадбачана на 1978 год, а на гэта патрэбна яшчэ 200 мільёнаў злотых.

Грамадскі камітэт будовы помніка-бальніцы вырашыў звярнуцца да ўсіх жанчын. Ці ж іх сэрцы, сэрцы мацярэй, не перапоўнены чуласцю да кожнага дзіцяці! Ці ж іх сэрцы не дранцвеюць ад адной толькі думкі, што з маленствам можа здарыцца бяда?!

Арганізатары будовы просяць іх прыняць сардэчна новую форму збору грошай на помнік-бальніцу — вялікую латарэю на будову Цэнтра здароўя дзіцяці. Прапануецца адзначыць сёлетняе свята жанчын пад лозунгам „Лёс для Эвы“. Няхай на кожным прадпрыемстве, у кожнай установе кожная жанчына разам з традыцыйнай кветкай або дробным падарункам атрымае латарэйны білет (лёс). Купіць іх можна будзе ў кіёсках „Руху“ ўжо ад 24 лютага. Няхай латарэйны білет стане дробным падарункам — неспадзяванкай. Каму пашанцуе, падарунак можа аказацца не такі ўжо дробны, бо сярод выйгрышаў ёсць аўтамашыны „Фіят“ 125п і 126п, трактары, малацілкі, сціральныя і швейныя машыны, тэлевізары і інш. Калі ж не пашанцуе, няхай гэтыя 10 зл. будуць укладам жанчыны ў ганаровую справу пабудовы помніка-бальніцы, якая будзе насіць імя дзяцей — ахвяр II сусветнай вайны.

Для людзей, якія хацелі б унесці асабісты ўклад у пабудову Цэнтра здароўя дзіцяці, прыпамінаем нумар банкавай пазіцыі (конта): PKO I OW Nr 1-9-122222 Pomnik-Szpital CZD.

**Я. Чэрнякевіч**




*Латарэйны білет.*

## Ці ведаеце, што...

...савецкі экспрэс „Аўрора“, які возіць пасажыраў з Масквы ў Ленінград, развівае хуткасць у 160 кіламетраў у гадзіну, а суперэкспрэсы „Руская тройка“ і „Эр-200“ ездзяць з хуткасцю 200 кіламетраў у гадзіну.

...у нашай краіне існуе зараз 8 725 бібліятэк, кнігазбор якіх налічвае 62,5 мільёна тамоў кніг.

...у канцы 1973 года было ў Варшаве 1 млн. 389 тысяч жыхароў.

...беластоцкая ваяводская арганізацыя ЗСЛ налічвае больш 18,5 тысяч членаў, у тым ліку 70% складаюць сяляне.

...беластоцкая ваяводская арганізацыя ЗБоВіД налічвае 14,8 тысяч членаў, у тым ліку больш 10 тысяч сялян.

...у трох беластоцкіх вышэйшых навучальных установах цяпер вучыцца 5 651 студэнт.

...у 1973 годзе вучобу ў вышэйшых навучальных установах у Беластоку закончыла 986 чалавек. Дыпломы лекараў атрымала 229 абсальвентаў, дэнтыстаў — 42, інжынераў — 393.

(ця)

## Кутоk практычных ведаў




## Другое блюда з мяса

### ШНІЦЭЛЬ З ЦЯЛЯЦІНЫ

75 дэкаў цяляціны з задняй часткі, 1 лыжка мукі, соль, 1 яйцо, 2 лыжкі цёртай булкі, тлушч.

Цяляціну памыць, нарэзаць упапярок валокан на кавалкі аднолькавай таўшчыні. Кожны кавалак мяса збіць, пасаліць, абсыпаць мукою, памачыць у яйцо і цёртую булку, смажыць на моцна разагрэтым шмальцы. Падсмажыўшы мінут дзесяць, накрыць патэльню, адставіць на бераг пліты на дзесяць мінут.

Шніцэлі вельмі смакуюць з бульбай і тушанай морквай ці салатам з чырвонай капусты.

### БРЫЗОЛЬ СА СВІНІНЫ

75 дэкаў мяса са свіной шынкі, соль, перац, тлушч.

Мяса нарэзаць упоперак валокан на тонкія кавалкі, а пасля старанна збіць малатком так, каб паўсталі тонкія круглыя брызолі таўшчынёю паўсантыметра. Мяса пасаліць, абсыпаць мукою, смажыць перад самай падачай на моцна разагрэтым тлушчы.

Падаваць з варанай бульбай і з салатам.

### СМАЖАНАЯ ПЯЧОНКА

60 дэкаў пячонкі, 15 дэкаў цыбулі, 1 лыжка мукі, соль, тлушч.

Пячонку памыць, зняць з яе плёнку, нарэзаць на кавалкі таўшчынёю каля 1,5 см. Пячонку можна абсыпаць мукою, але не абавязкова. Смажыць на моцна разагрэтым тлушчы. Пасаліць, як падсмажыцца.

Падаваць адразу ж з асобна падсмажанай цыбуляй, у сезоне з памідорамі ці іншым салатам.

### ФІЛЕ СА СХАБУ

60 дэкаў схабу, 1 лыжка мукі, соль,

Вострым нажом аддзяліць паляндвіцу ад косці. Аддзеленае мяса нарэзаць упоперак на кавалкі таўшчынёю каля 1 см. Кожны кавалак абсыпаць мукой, класці мяса на разагрэты тлушч, абсмажваць яго з абодвух бакоў. Тады адставіць патэльню на менш гарачае месца на пліце. Палажыць на мяса лыжачку масла, накрыць, пасаліць мяса перад самай падачай.

Падаваць з бульбай і салатам.

### СХАБОВЫЯ КАТЛЕТЫ

75 дэкаў схабу, соль, 1 яйцо, 2 лыжкі цёртай булкі, 1 лыжка мукі, тлушч.

Найлепш рабіць катлеты, аддзяліўшы мяса ад касцей, бо тады косці можна выкарыстаць для супа. Мяса нарэзаць упоперак на пяць частак, збіць да таўшчыні каля 1 см. Кожны кавалак абсыпаць соллю і мукой, памачыць у яечка і цёртую булку, смажыць на разагрэтым тлушчы. Падсмажыўшы, катлеты прыкрыць, адставіць на 10 мінут для дагравання.

Падаваць з бульбай і салатам.

**Гаспадыня**




Двое сутак прайшло ва ўзмоцненых, але безвыніковых пошуках. Салдаты Глебава, разам з прыбыўшымі на падтрымку салдатамі рэзервнай заставы днём і ноччу прачэсвалі ўсе падазроныя месцы ў лесе, аглядалі кожны хутар, кожную хату, хлеў і леснічоўку. Ля аб'ектаў, за якімі маглі цікаваць дыверсанты, ставіліся засады. Кантрольна-прапускны пункт прыдзірліва і строга правяраў усё, што праходзіла ці праязджала па шашы.

Але ўсё было дарэмна.

Праўда, затрымалі некалькі парушальнікаў рэжыму прыфрантавой паласы ды з дзесятак нямецкіх аўтаматчыкаў, якія хаваліся ў лесе пасля разгрому часцей вермахта, што тут абараняліся. Фашысты наткнуліся на засаду сержанта Гараднова, якая засела ля палянкі з леснічоўкай, і пасля кароткай перастрэлкі паднялі рукі. Брудных, няголеных і галодных гітлераўцаў прывялі на заставу. Лузана на месцы не было, і Дзегцяроў, узброіўшыся руска-нямецкім слоўнікам, так-сяк зрабіў допыт палонным.

Але дыверсанты нібы скрозь зямлю праваліліся. Не было знойдзена ніякіх слядоў і банды, якая абстраляла машыну палкоўніка Шпакава.

Глебаў пачынаў ужо думаць аб тым, ці не перабраліся яны на ўчасткі суседзяў. А Лузан выказаў думку, што, магчыма, уся гэтая аперацыя „Лістапада“ задумана для таго, каб адцягнуць нашу ўвагу ад нечага больш сур'ёзнага. Але два выпадкі, якія здарыліся адначасова, рассеялі сумненні начальніка заставы і яго намесніка. Была пашкоджана франтавая лінія сувязі, а сувязісты, пасланыя на месца пашкоджання, забітыя. А неўзабаве нямецкая авіяцыя дакладна скінула бомбы на добра замаскіраваны ў лесе склад боепрыпасаў. Усё гэта здарылася на ўчастку Глебава.

Капітан лічыў сябе вінаватым за ўсё, што адбылося, і хадзіў змрочны. Ён разумеў, вядома, што застава не мае сілы абараніць усю лінію сувязі і склады з боепрыпасамі, але знайсці і абясшкодзіць агентуру праціўніка, што дзейнічае на ўчастку, яна была абавязана.

Нічога не давалі пакуль што і кантакты з жыхарамі Кудароўшчыны. Глебаў неяк зайшоў да старога Вышаслаўскага. Той сядзеў за сталом і як бы чакаў госця.

Вышаслаўскаму было за шэсцьдзесят, але выгляд меў яшчэ даволі бадзёры — высокі, хударлявы, падцягнуты. Быў ён негаваркі, ганарлівы і фанабэрысты. Павітаўся з Глебавым паважна, з годнасцю, але не падняўся насустрач госцю. Капітан прысеў на лаўку і прапанаваў старому закурыць.

— Выдатная махорка, — пахваліўся ён, вымаючы з кішэні штаноў кісет.

Вышаслаўскі ветліва падзякаваў і адмовіўся. І тут жа асцярожна пацікавіўся, ці скора салдаты вызваляць ягоную хату. Надыходзіць зіма, і яму, старому чалавеку, з сям'ёй хацелася б да халадоў перабрацца пад сваю ўласную страху.

Глебаў адказаў, што да халадоў, напэўна, хата будзе вызвалена, і заўважыў, як пры гэтым паведамленні радасна бліснулі вочы Вышаслаўскага, а на тонкіх, шчыльна сціснутых губах з'явілася нейкае падабенства ўсмешкі. Але адразу твар старога стаў заклапочаным, і ён папрасіў Глебава прасачыць, каб салдаты не папсавалі маёмасці і, крый божа, каб былі асцярожныя з агнём.

Капітан чуў гэтую просьбу ад Вышаслаўскага не адзін раз з таго часу, як застава прыйшла ў Кудароўшчыну, і заўсёды адчуваў нейкую непрыязнь да старога. Глебаву здавалася, што Вышаслаўскі клапоціцца толькі аб сваёй хаце, аб сваёй маёмасці, больш нічога яго не хвалявала. Ішла вайна, вырашаўся лёс краіны, народа, свету, а ён клапаціўся толькі пра сваё барахло.

— Скажыце, Вышаслаўскі, дзе вашы сыны? — спытаў Глебаў.

— Не вем, пан капітан, не вем, — замармытаў стары. — Людзі кажуць, у вас у войску, а я не вем. Можа так, а можа не так.

„Ілжэ, — падумаў Глебаў, назіраючы за Вышаслаўскім. — Ведае, усё ведае пан Казімір. Ну, добра, пабачым, што будзе далей“.

— Калі вы ў апошні раз чулі пра іх?

— Даўно. Не памятаю ўжо.

— Калі яны пайшлі з дому?

— Таксама даўно. Яшчэ ў трыццаць дзевятым. Служыць у войска пайшлі. І згінулі з таго часу. Кажуць, да вас у Расію пайшлі, а можа і забітыя. Не вем.

У гэты момант у хату ўскочыла Стася. Валасы ў яе растрапаліся, шчокі заружавелі ад бегу, вочы ззялі радасцю. Яна хацела нешта сказаць бацьку, але, убачыўшы капітана, застыла ў парозе. Глебаў устаў і некалькі секунд моўчкі пaглядаў на дзяўчыну, забыўшыся павітацца.

Стася ад яго погляду збянтэжылася і хацела выбегчы з хаты, але бацька спыніў яе.

— Вось капітан пра Веслава і Людвіга пытае, — звярнуўся ён да дачкі, — можа ты што пра іх ведаеш?

Стася пераводзіла позірк з бацькі на Глебава і маўчала ў замяшанні.

— Я ж кажу, можа на тым свеце яны, — сказаў стары.

Стася моўчкі павярнулася і знікла за парогам.

— Навошта ж вы так, пан Казімір, — дакорліва сказаў Глебаў. — Яны ж браты ёй.

— А мне — сыны, — абрэзаў стары.

**(Працяг будзе).**

# ТРЫБУНА чытачоў

## Сход гуртка ЗБоВіД у Шудзялаве

У Шудзялаве адбыўся сход гуртка ЗБоВіД, на якім прадстаўнікі павятовага аддзела з Саколкі расказалі аб працы міністэрства па справах ветэранаў над выданнем карт ветэранаў для членаў ЗБоВіД. Карты гэтыя атрымаюць збавідаўцы ў XXX гадавіну ПНР. На сходзе гаварылася таксама аб тым, што заслужаныя члены ЗБоВіД атрымаюць дзяржаўныя ўзнагароды. Будуць сярод іх і нашы ветэраны. Удзельнікі сходу прынялі пастанову далей умацоўваць рады сваёй арганізацыі.

**Т. К.**




### ЗІМА

*Зіма, зіма марозная,*
*Ты не пужай мяне!*
*Чаму такая грозная?*
*Я не баюсь цябе.*

*Скавала рэкі, моры,*
*Змарозіла зямлю.*
*У небе ясны зоры, —*
*Эх, як зіму люблю!*

*Зіма, зіма скрыпучая,*
*Суровая такая,*
*Ўжо людзям надакучыла,*
*А сэрца не змякае.*

*Іней, мяцеліца, мароз —*
*Вось твае прыкметы,*
*Мерзнуць вушы, шчокі, нос.*
*Я ўжо чакаю лета.*

**Жэня Аўсенюк,**
Бельскі эканамічны ліцэй

### МАЕ АДКАЗЫ

Напісаў я верш калісьці,
Заклік-верш у свет ўзыйсці,
„Канспіратарам-паэтам" усім —
Павышаць іх паэтычны ўздым.
Ды зразумець я не магу,
Што многія памылачку адну
Зрабілі ў сваіх меркаваннях.
Я высветліць яе спяшу,
Ніякіх спораў не хачу!
Я проста заклік даў — пішыце,
Хто можа, пёры ўміг хапіце!
Згаджусь з табою, дружа Павел,
Што нам пісаць ўсім трэба многа.
Ты кажаш — трэба памірыцца,
А не было ж чаго сварыцца...
Матысюк Ніна — я ёй веру,
Што льючы верш свой на паперу,
Пакрыўдзіў яе творчы дар,
Забыўшыся зусім дашчэнту,
Што і яна, як паэтэса, з зор
Натхненне цягне да тых пор,
Таму прашу я прабачэння.
Ніколі больш такіх здарэнняў —
Мой новы лозунг прагучыць,
(Няхай хоць спорам не ўзляціць).
З увагай я чытаў адказы,
Ўсе тры накіраваны да мяне:
Ніны, Ірэны, а ў канцы і Паўла,
Навуку з іх вялікую ўзяў я.
А вось мае адносіны да гэтых спраў,
Якія па-салдацку ў пункты склаў.
І ў нас, і ў вас спартсменаў многа,
І матэматыкаў, і фізікаў, і біялогаў.
Нам трэба толькі многа ўсім пісаць
У „Ніву". І чытаць
Яе цудоўныя старонкі.
Пішыце ўсе, і будзем жыць у згодзе,
Няхай пісанне ў „Ніву" будзе ў модзе.
І мо калісь раскажам ўнукам,
Як мы усе у Ніве" друкам
Размову пра жыццё вялі,
Праз „Ніву" па-сяброўску сабе рукі
падалі.

**Яўгень Семянюк**

## Крынкі апранаюць гарадскі ўбор

Крынкі — гэта мястэчка, якое перад вайной мела гарадскія правы. Налічвала яно каля 5 тысяч насельніцтва, 50 працэнтаў было тут яўрэяў, 25 працэнтаў беларусаў, 24 працэнты палякаў і 1 працэнт татараў. Насельніцтва займалася гарбарствам, бо ў Крынках было 9 прыватных купецкіх гарбарняў. Найбольшая была ў яўрэя Айна. Працавалі тут людзі з бліжэйшых вёсак Лапічы, Астровак і іншых. У Крынках было 60 шаўцоў, 45 краўцоў, многа крам і розных купцоў і гандляроў.

Быў гарадскі суд і бурмістр, а таксама іншыя ўстановы. Кожны чацвер адбываліся вялікія кірмашы. З'язджаліся людзі з далёкіх ваколіц — з Індуры, Бераставіцы, Гальнкі і іншых. Пры савецкай уладзе ў 1939—41 г.г. у Крынках быў раён. Належала да яго вялікая тэрыторыя аж па Індуру і Гальнку. Усе гарбарні сталі ў той час дзяржаўнымі.

У час вайны Крынкі былі моцна знішчаны. А пасля вайны апынуліся ў пагранічнай зоне. Страцілі гарадскія правы і сталі гмінным мястэчкам.

Цяпер Крынкі зноў хочуць мець сваё даўнейшае значэнне. Радныя з Крынак дамагаюцца праў для Крынак на ўсіх павятовых сесіях. У Крынках жыве цяпер 2.600 чалавек. Развіваецца тут гарбарская прамысловасць. У гарбарні працуе каля 700 чалавек. Развіваюцца кушнерскія і шавецкія спулдзельні. Пабудавана некалькі гандлёвых павільёнаў. Будуецца вялікая мясная крама, рэстаран, прадшколле і іншыя гандлёвыя і грамадскія ўстановы. Гарбарня пабудавала два блокі, якія прыдаюць Крынкам выгляд горада. Ёсць прыгожы парк, каб яшчэ больш толькі было ў ім дрэў.

**Т. К.**




**Дарагое „Сэрцайка"!**

Жыву я на вёсцы. Мне 18 год. Нядаўна пазнаёмілася я з Валодзем — хлопцам з суседняй вёскі. Часта ён мяне наведвае, гаворыць, што я яму падабаюся і кахае мяне. Але Валодзя мне не падабаецца. Ён непрыгожы, і я яго зусім не кахаю. Бацькам затое ён вельмі падабаецца. Але я ведаю, што ім не так хлопец, як яго гаспадарка падабаецца. Яны часта мне напамінаюць пра тое, што ён адзін у бацькоў, ды гаспадарка ў яго добрая. Да мяне таксама заляцаецца і Генік з нашай вёскі. Ён прыгожы, вясёлы, але ў кілішак часценька заглядае. Бацькі яго не любяць, п'яніцай называюць, не дазваляюць мне з ім хадзіць. А мне ён падабаецца. Ды яшчэ і час ад часу спатыкаюся я з Алёшкам, ён таксама гаварыў, што мяне кахае. Ён нябрыдкі хлопец, але бацькам толькі Валодзя ў галаву ўбіўся і яны нават слухаць не хочуць аб іншых хлопцах, а за яго дык адразу аддалі б мяне замуж. Яшчэ і іншыя хлопцы каля мяне круцяцца. У суботу ці нядзелю дык поўная хата іх назбіраецца. Я ўжо сама не ведаю, як з імі разабрацца і каторага выбраць на мужа. Парай, „Сэрцайка".

**Вера з Гайнаўшчыны**

**Вера!** З лісту твайго вынікае, што ніводнага з хлопцаў ты не кахаеш, а толькі той ці іншы табе менш ці больш падабаецца. Тады аб замужастве няма чаго гаварыць. Ды і спяшацца няма патрэбы. Ты маладая і напэўна спаткаеш яшчэ такога хлопца, якога пакахаеш і які табе спадабаецца больш за ўсіх. Тады не будзеш вагацца. З бацькамі згадзіцца тут нельга, бо гаворачы аб жаніцьбе, перш за ўсё трэба браць пад увагу хлопца, а не ставіць на першы план яго гаспадарку.

**„Сэрцайка"**




## ЁЛКІ

### У ТАПАРКАХ

Нядаўна ў вёсцы Тапаркі, Гайнаўскага павету, у мясцовай святліцы адбылася ёлка. З музычнай праграмай выступалі вучні школы з суседняй вёскі Сакі (у Тапарках школы няма). Малодшыя школьнікі дэкламавалі вершы, у тым ліку беларускіх аўтараў. Таксама гучэлі родныя песні. Найцікавейшай для малышоў была сустрэча з Дзедам Марозам, які раздаваў падарункі. Цяжка было пазнаць у ім мясцовага маладога чалавека Лявона Вявюрку, які дасканала выканаў сваю ролю. На заканчэнне адбылася забава для ўсіх.

Ініцыятарам і арганізатарам ёлкі ў Тапарках была мясцовая арганізацыя ЗСМВ, а асабліва Віталіс Саха — клубовы, Ніна Троц, Ніна Тамашук — члены арганізацыі. Хочацца прыпомніць, што ў гэтай вёсцы такая ўрачыстасць ніколі дагэтуль не адбывалася. Сёлета першы раз, але як кажуць, экзамен здалі добра.

*

### У ДУБІЧІХ ЦАРКОЎНЫХ

У Дубічах Царкоўных ёлка адбылася ў школьнай зале. Настаўнікі нашы папрацавалі добра, каб усё адбылося як найлепш, урачыста, у добрым настроі.

Спачатку вучні спявалі розныя песні, у тым ліку і беларускія, дэкламавалі вершы, прадстаўлялі скетчы. Потым дзеці з моцным хваляваннем атрымлівалі ад сваіх педагогаў падарункі. Добра прайшоў дзень. На заканчэнне адбылася школьная забава. На акардэоне іграў вучань VIII класа Пётр Герасімюк.

**Мікалай Панфілюк**

*

### У ГРЫГОРАЎЦАХ

Ужо з самага ранку стаяў гул і гоман дзіцячых галасоў. Вучні не маглі дачакацца 11 гадзіны, калі распачнецца ёлка. Кожнаму хацелася як найхутчэй выйсці на сцэну, каб выступіць у сцэнцы, падрыхтаванай пад кіраўніцтвам настаўніцы Марыі Куцэвіч. Ёлка была цікавай і вясёлай. Са сцэны плыло многа радасці, гумару і песень. Дзеці былі пераапрануты ў розных звяроў.

Потым прыйшоў Дзед Мароз з мяшком падарункаў. З якім хваляваннем дзеці расказвалі дзеду Марозу вершы, спявалі яму песні! Усім гледачам, якія да апошняга месца запоўнілі мясцовую святліцу ў Грыгораўцах, ёлка вельмі спадабалася. Развяселілі іх цікавыя сцэнкі, а таксама Дзед Мароз у майстэрскім выкананні вучня VIII класа пачатковай школы ў Малінніках Юркі Сахарчука. Потым яшчэ доўгі час у святліцы грымела музыка. Дзеці гулялі весела.

**Яўген Семянюк**

## Каляровы тэлевізар у Міхалове

У зале клуба міжнароднай прэсы і кніжкі ў Беластоку адбыўся фінал чытальніцкага турніра „Газеты Беластоцкай" і „Трыбуны Люду". У фінале прыняло ўдзел 8 дружын. Перамагла дружына з Міхалова ў складзе: Павел Гутнік, Вінцэнты Былеўскі і Марэк Матэйка. Узнагародай для іх быў каляровы тэлевізар.

Удзельнікі турніра, а асабліва дружына з Міхалова добра ведалі найважнейшыя падзеі ў краіне і на свеце, аб якіх пісалі спамянутыя газеты.

Каляровы тэлевізар, які выйгралі міхалоўцы, будзе стаяць у мясцовым цэнтры культуры — у клубе „Рух".

А вось, што сказаў аб турніры чытачам „Нівы" кіраўнік ГОК-у ў Міхалове Рышард Варабей: „У элімінацыях розных ступеняў прыняло ўдзел 360 асоб. Гэта сведчыць аб вялікім зацікаўленні турнірам. Цешымся, што нашы хлопцы выйгралі. Трэба праўду сказаць, яны і сур'ёзна рыхтаваліся да гэтага. Хачу падкрэсліць, што толькі дзякуючы салднай падрыхтоўцы можна было перамагчы іншых і заваяваць узнагароду. Хочацца падзякаваць міхалоўскай дружыне за тое, што выкарыстала і нашы парады ў час падрыхтоўкі да турніру і за тое, што выйграла. Урачыстае ўручэнне тэлевізара ўжо адбылося. І цяпер няхай ён добра служыць усім".

**П. Г.**

**У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ**

## Меліярацыя для Сукавіч

**АДКАЗВАЕ:**

**POWIATOWY ZARZĄD GOSPODARKI WODNEJ I MELIORACJI W SOKÓŁCE.** Sprawa: dotyczy przeprowadzenia melioracji na użytkach zielonych wsi Sukowicze gmina Szudziałowo.

Użytki zielone wsi Sukowicze zostaną zmeliorowane i zagospodarowane w ramach realizacji projektu technicznego SŁOJA II. W chwili obecnej Biuro Projektów Wodnych Melioracji w Białymstoku na zlecenie Powiatowego Zarządu Gospodarki Wodnej i Melioracji w Sokółce opracowuje projekt techniczny oraz wykonuje pomiary sytuacyjno-wysokościowe. Termin opracowania wg umowy przewidziany jest na miesiąc czerwiec 1975 roku.

Stwierdza to możliwość rozpoczęcia inwestycji melioracyjnej na wiosnę 1976 roku. Powiatowy Zarząd Gospodarki Wodnej i Melioracji w Sokółce występował do Biura Projektów Wodnych Melioracji o przyśpieszenie wykonania prac projektowych, jednak zostało to załatwione odmownie z powodu braku mocy przerobowych w tym Biurze.

**Z-ca Kierownika d/s Technicznych**
**Wacław Biziuk.**

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Zazdrość i medycyna" (polski), 26—27.II, „Wakacje we czworo" (włoski), 28.II.

**Чаромуха**
„Pojedynek rewolwerowców" (USA), 26—27.II.

**Кляшчэлі**
„Legenda" (polski), 26—27. „Cudowny kożuszek (węgierski) 28.II—1.III., „Raport 36" (koreański), 2—3.III.

**Нараўка**
„Hubal" (polski), „Skok o świcie" (radz.), 27.II.—3.III.

**Нарва**
„Odstrzał" (USA), „Motyle" (polski), 27.II—3.III.

**Чыжы**
„Opętanie" (polski), „Ciepło twoich rąk" (radz.), 27.II—3.III.

**Дубічы Царкоўныя**
„Z tamtej strony tęczy" (polski), „Trzej świadkowie" (czeski), 27.II—3.III.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Орля**
„Homolkowie na urlopie" (czeski), „Pokój przechodni" (NRD), 27.II.—3.III.

**Райск**
„Pozwólcie startować" (radz.), „Ja wam pokażę" (NRD), 27.II—3.III.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Міхалова**
„Dom wampirów" (angl.), 26—27.II, „Niech bestia zdycha" (franc.), 28.II—1.III.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Шудзялава**
„W pustyni i w puszczy" (polski), 26.II.—3.III.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Trzy dni Wiktora Czernyszewa" (radz.), 26—27.II., „Kanał" (polski), 28.II—1.III. „Gra" (polski), 2—3.III.

**Мілейчыцы**
„Zdarzenie" (jugosł), 26—27.II. „Łobuz" (franc.), 28.II—1.III. „Poczekam, aż zabijesz" (angl.), 2—3.III.

**Мельнік**
„Sprawdzono min nie ma" (jugosł.), 26—27.II., „Więzy" (węgierski), 28.II—1.III. „Po latach" (radz.), 2—3.III.

Ніва

Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego. Wydawca: Białostockie Wydawnictwo Prasowe RSW „Prasa-Książka-Ruch". Redaguje Kolegium. Adres Redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Numer przy przesyłkach pocztowych: Redakcja tygodnika „Niwa", Skr. poczt. 281, 15-950 Białystok. Telefony: Redaktor Naczelny i Sekretarz Redakcji 2-10-33, publicyscі 2-32-41 do 45 (centrala). Cena prenumeraty krajowej: rocznie: 28,80 zł, półrocznie: 14,40 zł. kwartalnie: 7,20 zł. Prenumeraty przyjmowane są do dnia 10 każdego miesiąca poprzedzającego okres prenumeraty. Prenumeraty na kraj dla czytelników indywidualnych przyjmują Urzędy Pocztowe oraz listonosze. Można również wpłaty dokonywać na konto I Oddziału Rejonowego „Ruch" w Białymstoku 150-6-161 NBP I OM Białystok. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Wszystkie instytucje państwowe i społeczne w miastach, zamawiają prenumeratę wyłącznie za pośrednictwem Oddziałów i Delegatur RSW „Prasa-Książka-Ruch". Pozostałe — mające siedzibę na wsi lub w innych miejscowościach, w których nie ma Oddziałów i Delegatur zamawiają prenumeratę za pośrednictwem Urzędów Pocztowych. Prenumeratę na zagranicę przyjmuje: RSW „Prasa-Książka-Ruch", Biuro Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych, Wronia 23, 00-840 Warszawa. Konto PKO Nr 1-6-100024. Cena prenumeraty dla zagranicy jest wyższa od prenumeraty krajowej o 40 proc. Nr indeksu 36911.

BZGraf. Nakład 7954 O-3

Італьянскі гумар

## Леў і Мышаня

Аўтар гэтай кароценькай прытчы перш за ўсё абавязаны папрасіць у чытачоў прабачэння. Справа ў тым, што сюжэт байкі аб Ільве і Мышы, зразумела, усім даўно вядомы. Адзінае, што можа апраўдаць аўтара, — гэта зусім новая канцоўка.

Дык вось, жыў быў у Сенегамбіі адзін страшны Леў. Ён наганяў жах на ўсіх жыхароў берагоў ракі Сенегал. Леў быў вопытны, магутны і хітры. Ніхто не асмеліўся стаць яму ўпоперак дарогі, за выключэннем, мабыць, яшчэ больш магутнага старога Белага Насарога. Ды і той апошнім часам абыходзіў Ільва бокам, таму што станавіўся ўсё больш блізарукім. Але і Леў, у сваю чаргу, не шукаў з ім блізкай сустрэчы...

Аднойчы, сыты і здаволены апошнім паляваннем, Леў прачнуўся. У гэты час міма яго спрабавала прашмыгнуць Мышаня. Леў ужо даўно прыкмеціў, што Мышаня адносіцца да яго не з належнай пашанай. Таму Леў быстра працягнуў лапу і зграбастаў Мышаня, стараючыся, аднак, не прыдушыць яго .

Мышаня тут жа пачало прасіць літасці:

— О ўсемагутны Леў, падары мне жыццё!

— А навошта гэтакай маленькай жывёлінцы жыццё? — прабасіў Леў.

— Кожнаму дарагое жыццё, уладыка пустынь!

— А што ты падарыш мне ўзамен?

— Можа, я спатрэблюся табе, калі і ты трапіш у бяду!

— Ты гэта сур'ёзна?

— Калі я хлушу, хай мяне праглыне першая трапіўшаяся паршывая кошка! — паклялася Мышаня.

— Ну, добра ўжо, бяжы! — сказаў Леў, раскамячваючы лапу.

Мышаня ўцякло, а Леў, рагочучы, пачаў качацца па зямлі.

Калі б Леў ведаў, што рыхтуе яму лёс, ён не смяяўся б так голасна.

У сяле непадалёк жылі браты — Муса і Мустафа, дасканалыя паляўнічыя. І менавіта ў гэты дзень яны вырашылі злавіць страшнага Ільва, скарыстаўшы для гэтага прынаду і моцную сетку.

Прайшло некалькі дзён. Леў, прагаладаўшыся, пайшоў за здабычу. Але... кінуўшыся на прынаду, ён заблытаўся ў пастцы.

Чым больш ён намагаўся вырвацца з яе, тым мацней сціскала яго моцная сетка.

Здарылася так, што побач прабягала Мышаня.

— Эй, дружа! — рыкнуў Леў. — У цябе ёсць нагода адплаціць мне дабром за дабро. Бачыш, б'юся ў гэтай сетцы, бы муха ў павуціне!

— А ты сапраўды не ў сілах рухацца?

— Вядома!..

— Ну, тады я зраблю ўсё, што патраплю! — усклікнула Мышаня.

...Што ж яно зрабіла?

Вы, напэўна, думаеце, што яно перагрызла вострымі зубкамі сетку, як гаворыцца ў той старой байцы?

Глупства! Не такое цяпер Мышаня!

Упэўніўшыся, што Леў бездапаможны, яно быстра і ўмела адгрызла ў Ільва хвост і зацягнула яго ў нару.

Там яно павесіла ільвіны хвост над камінам і з гордасцю дэманструе яго гасцям як свой найлепшы трафей!

**Даменіка Равэці**





# НАЎКА

### ХТО КУДЫ ГЛЯДЗІЦЬ

— Ужо даўно так павялося, што калі я ноччу прыходжу п'яны дамоў, жонка мне нічога не кажа, а толькі з дакорам глядзіць на гадзіннік.

— Што там гадзіннік, — адказвае сябра. — Калі я з'яўляюся, мая ўжо глядзіць не на гадзіннік, а на каляндар.

## МІНІБАЙКІ

### ВОЎК

Хоць укутай шоўкам, Воўк астанецца Воўкам.

### ІНДЫК

Задзерта дзюба ў Індыка: персона, бач, вялікая!

**Д. Салодкі**

## МІНІВЕРШЫ

### ДЗЕД І УНУК

Дзед на печ зірнуў:<br>
— Андрэй,<br>
З запалкамі не дурэй!<br>
— Не! — унук прагаварыў. —<br>
Я недакурак прыкурыў.

**Нічыпар Парукаў**

### ПАШАНЦАВАЛА

У бюро аднёс паперу<br>
І ўсё ж выменяў кватэру.<br>
Ноччу — песні пад гітары,<br>
Цераз двор — бярэзнік,<br>
Пад акном — прыём<br>
шклотары,<br>
Побач — выцвярэзнік.

**І. Мацвеенка**



*Без слоў.*

### НЕ ЗАЎВАЖЫЦЬ

Сямейная пара ў нядзельны дзень рабіла загарадную прагулку, якая павінна была завяршыцца абедам у дарожным рэстаране.

— Можа, закажам бутэлечку белага віна? — спытала жонка.

— Не, я ж за рулём, а вакол паліцыя.

— Тады давай возьмем бутэльку чырвонага віна. Яго пры аналізе крыві паліцыя ўжо напэўна не заўважыць.

### ДОБРАЗЫЧЛІВЫ

Адзін лекар гаворыць другому:

— Я вырашыў павялічыць ганарар, які бяру з пацыентаў.

— А што яны табе скажуць на гэта?

— Бачыш, я буду часцей прадпісваць ім дыеты, таму іх бюджэт усё роўна не панясе страты.

### З ЖЫЦЦЯ ХАЛАСЦЯКОЎ

Стары халасцяк прызнаецца ў каханні даме:

— Для вас я гатовы пайсці на край свету!

— Тады хутчэй у дарогу, бо не паспееце!

## ГУМАР З

### АДЗІНЫ РАТУНАК

Ішоў цераз лёдураднік ды й праваліўся. Сабраўся народ. Пабеглі за бусакамі. А ідзе адзін селянін.

— Чаго вы, — кажа, — хвалюецеся? Чаго крычыце?

— Дык ураднік топіцца!

— А вы яму чырвонца пакажыце, ён адразу выскачыць!



*Без слоў.*

### ЗРАЗУМЕЎ

— Ты чаму сёння не пайшоў у школу? — пытае маці сына.

— Дык вы ж, мама, учора наказвалі, каб з пакою — ні кроку.

### НЕЦІКАВЫ

Размова каля касы тэатра.

— Скажыце, калі ласка, у вас ёсць два білеты ў першым радзе партэра?

— Ёсць, — адказвае касірша.

— А ў другім радзе балкона?

— Ёсць.

— А ў ложу бельэтажа?

— Калі ласка... А што б вы хацелі?

— Ды, бачыце, нічога. Калі столькі засталося білетаў, то, пэўна, спектакль нецікавы.

### НЕ БАЦЦА

Адна дама гаворыць другой:

— Нам разам з сястрой шэсцьдзесят год на дваіх.

— Божа мой, — адказвае яе сяброўка, — і вы не баіцеся пакідаць такую маленькую сястру дома?

*ЧАГО Ў СПОРЦЕ НЕ БЫВАЕ!*



*Спужаўся.*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Надзеі і Ірэны Галёнка з Пасечнікаў Вялікіх змяшчаем песню з рэпертуару Мірэй Мацье

## PARYSKIE TANGO

sł. pol. W. Młynarski<br>
muz. Christian Brun

Bal ten znudził mnie i miałam go dość<br>
wiać już z niego chciałam gdy jak na złość<br>
gdy ostatni lampion nad salą gasł<br>
usłyszałam pierwszy raz<br>
Tango, paryskie tango<br>
ach jak upojnie grano tam go<br>
choć modnych rytmów tyle znam<br>
zawirowałam z panem tam<br>
gdzie grano tango, paryskie tango<br>
w milczeniu ze mną tańczył pan go<br>
i wystarczyło tango to<br>
za pańskich komplementów sto<br>
I sam pan nie wie o nie<br>
że w tańcu tak tuląc mnie<br>
stał się pan całkiem niechcący<br>
strasznie interesujący<br>
Męski intelekt i takt<br>
warte są wiele to fakt<br>
lecz czasem bywa że<br>
zbyt mądre opowieści<br>
Nudzą mnie i mam seredecznie ich dość<br>
chwil banalnych paru szukam na złość<br>
dość mam wyszukanych min, mądrych słów<br>
i usłyszeć pragnę znów<br>
To jedno tango paryskie tango<br>
ach ciągle jeszcze w uszach mam go<br>
choć modnych rytmów tyle znam<br>
jak urzeczona idę tam<br>
gdzie grają tango paryskie tango<br>
niech ze mną więc zatańczy pan go<br>
bo mnie wystarczy tango to<br>
za innych modnych tańców sto

## КУРЁЗЫ

### ЛЮБОЎ БЕЗ УЗАЕМНАСЦІ

Хто можа замяніць дамашнюю жывёлу і птушак, якіх любяць усе дзеці? Маленькія японцы адказваюць — жукі, конікі, цвыркуны. Цікаўныя дзеці тоўпяцца ў магазінах, купляючы ўсіх запар жучкоў, пакуль хапае грошай. Гэта „хобі“ палюбілі і дарослыя. Новыя жыхары дамашніх „жывых куткоў“ недарагія і не займаюць шмат месца. Вось толькі адна бяда, паскардзіўся неяк 12-гадовы такіец Масао, „здаецца, яны так і не навучацца пазнаваць мяне“.

### НЕПРЫЗНАНЫЯ ГЕРОІ

Швейцарац Фелікс Аўэр незадаволены заходнееўрапейскімі падручнікамі гісторыі, паколькі ў іх надзвычай шмат месца адводзіцца апісанню дзеянняў каралёў і палкаводцаў. Між тым, на думку Аўэра, варта было б больш расказваць аб жыцці і дзейнасці... міністраў фінансаў. Аргументуючы сваю прапанову, ён напамінае, што ў гісторыі вядома намнога больш міністраў фінансаў, якія абезгалоўлены, павешаны або пакараны смерцю, чым палкаводцаў, пакараных за прайграныя бітвы. У гэтым сэнсе, паводле падлікаў Аўэра, Францыя стаіць на першым месцы: з 1315 па 1781 год было пакарана 37 кіраўнікоў фінансавага ведамства краіны.

Выкладкі Фелікса Аўэра, напэўна, не прывядуць да рэформы гісторыяграфіі. Неват нягледзячы на тое, што ён — вядомы швейцарскі педагог, прафесар.




*Галава нам дадзена для таго, каб думаць, што ў іншых яе няма.*



**...Смерць пераможцы: загінуў, прыдушаны трыумфальнай аркай.**

**...Зладзеі маўчалі: кожны думаў аб чымсьці чужым.**